20 сакавіка 2020 | № 11 (670)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 20011

Амаль без вірусаў
Стар. 3



# Для адказнасці каранцін не патрэбны

НОВЫ ЧАС

**Істэрыя каронавіруса ўсё ж ахапіла ўвесь свет, і Беларусь таксама. Пры гэтым нам нават не давялося закрываць свае межы — гэта за нас зрабілі ўсе нашы суседзі. Паніка — яна ірацыянальная.**

Дарэчы, СААЗ лічыць, што ўвядзенне абмежаванняў на перамяшчэнне людзей і тавараў у перыяды надзвычайных сітуацый у галіне аховы здароўя «ў большасці выпадкаў не з’яўляецца эфектыўнай мерай і можа адцягваць рэсурсы ад іншых мерапрыемстваў». Больш за тое, абмежаванні могуць прыводзіць да збояў пры дастаўцы неабходнай дапамогі, парушаць дзейнасць гаспадарчых суб’ектаў і мець негатыўныя сацыяльна-эканамічныя наступствы для закранутых імі краін.

«Увядзенне значных абмежаванняў на міжнародных перавозкі можа быць апраўдана ў пачатку ўспышкі, паколькі можа даць краінам неабходны час для аператыўнага прыняцця эфектыўных мераў па забеспячэнні гатоўнасці. Такія абмежаванні павінны ўводзіцца толькі на падставе дакладнай ацэнкі рызыкі, быць суразмернымі рызыцы для здароўя насельніцтва, дзейнічаць непрацяглы час і рэгулярна пераглядацца па меры развіцця сітуацыі, — адзначаецца ў заяве СААЗ. — Актыўнае тэставанне, выяўленне выпадкаў і адсочванне кантактаў у сукупнасці з мерамі сацыяльнага дыстанцыявання, мабілізацыі мясцовых супольнасцяў і ўмацавання сістэм аховы здароўя, могуць прадухіліць перадачу інфекцыі і ратаваць чалавечыя жыцці».

А тым часам у інтэрнэце гуляюць петыцыі за ўвядзенне каранціну. І вось ужо Ганна Канапацкая, якая, нібыта, не пагаджалася з тым, што трэба адстойваць вынікі прэзідэнцкіх выбараў на вулічных акцыях (маўляў, ёсць іншыя законныя сродкі апратэставання вынікаў у выпадку фальсіфікацый), сама выходзіць на тую ж самую вулічную акцыю. Яна правяла адзіночны пікет ля Дома ўрада з патрабаваннем увесці каранцін. Прычым, які каранцін — Канапацкая нават не паведаміла. Толькі ў ВНУ? У навучальных установах? У месцах масавага збору людзей? Агулам па краіне?

І ніхто з падпісантаў гэтых петыцый не задумаўся, што стане з эканомікай нашай краіны, калі каранцін будзе ўведзены напоўніцу. Як думаеце, ці доўга чакаць дэвальвацыі? Адкуль возьмуцца грошы на заробкі тых, хто не будзе вымушана выходзіць на працу, і тых, хто якраз вымушана будзе працаваць больш? Што будзе з нашымі бізнесоўцамі, і за чый кошт яны захочуць кампенсаваць выдаткі? Ці будуць своечасова выплочвацца пенсіі і заробкі бюджэтнікам? Наколькі вырастуць кошты?

А што здарыцца, калі ў Беларусі будзе ўведзены каранцін? Людзі перастануць выходзіць з дому? Будуць сядзець дома ў чатырох сценах ды глядзець хронікі каронавіруса ў інтэрнэце і па тэлебачанні? Цікава, што замінае без каранціну не наведваць шматлюдныя месцы?

Журналістка Любоў Лунёва на прэс-канферэнцыі з нагоды Кангрэсу за незалежнасць распавядала калегам, як яна рабіла апытанку сярод студэнтаў, якім цяпер абмяжоўваюць заняткі ці пераводзяць на дыстанцыйнае навучанне. Маладзёны скардзіліся, маўляў, іх жа ніхто не папярэдзіў, што, прыходзячы з вуліцы, трэба мыць рукі і твар! Таму каронавірус распаўзаецца па ВНУ.



Ілюстрацыя Радыё «Свабода»

**Напэўна, сапраўды патрэбны загад Лукашэнкі, каб пачаць мыць рукі перад ежай ці добра мыць садавіну і гародніну перад спажываннем?**

Дажыўшы да ВНУ, людзі не навучыліся выконваць правілы персанальнай гігіены? Напэўна, сапраўды патрэбны загад Лукашэнкі ці ўраду, каб пачаць мыць рукі перад ежай ці добра мыць садавіну і гародніну перад спажываннем?

Ёсць такое добрае слова, якое паўсюль цяпер ужываюць у свеце, — «самаізаляцыя». Акцёр Том Хэнкс з жонкай, у якіх выявілі каронавірус, спынілі ўдзел у здымках фільму, прайшлі курс лекавання, але ўсё роўна самаізаляваліся ў той самы каранцін. І цяпер посцяць забаўныя фотачкі ў інстаграм. Сын міністра замежных спраў Уладзіміра Макея распавёў у сацсетках, што знаходзіцца на «хатнім» каранціне, бо некаторыя навучэнцы яго школы нядаўна пабывалі ў Італіі.

Дарэчы, Міністэрства адукацыі дазволіла бацькам забіраць дзяцей са школы і пераводзіць на хатняе навучанне. Таму для таго, каб вашы дзеці не хадзілі ў школу, зусім не абавязкова абвяшчаць каранцін. Вы самі можаце прыняць такое рашэнне. Гэтак жа, як можаце ўзяць адпачынак (чарговы ці за свой кошт). Таксама абсалютна без абвяшчэння каранціну вы можаце не наведваць шматлюдныя месцы, не ездзіць у небяспечныя краіны (ці наогул нікуды не ездзіць), не карыстацца грамадскім транспартам, не хадзіць без пільнай патрэбы ў крамы.

Кожны сам можа рабіць ці не рабіць усё тое, што будзе, калі каранцін абвесцяць афіцыйна. Для таго, каб быць адказным за сваё здароўе і здароўе тых, хто побач, не абавязкова рашэнне Лукашэнкі. Таму нагадваем: мыйце часцей рукі, не дакранайцеся да твару, без патрэбы не наведвайце шматлюдныя месцы, умацоўвайце свой імунітэт, не забывайце пра свежае паветра, абмяжуйце кантакты, трымайце дыстанцыю ад іншых людзей у грамадскіх месцах не менш за метр. І, нарэшце, не скупляйце ўсё ў крамах: падумайце пра тых, хто не мае запасаў грошай і харчавання.

Для даведкі: па стане на 19 сакавіка ў 51 чалавека выявілі наяўнасць новага каранавіруса. 9 пацыентаў маюць клінічныя прыкметы хваробы COVID-19 — Мінздароўя тлумачыць, што яны «па сутнасці з’яўляюцца хворымі». 37 пацыентаў маюць станоўчыя тэсты на новы каранавірус SARS-CoV-2, але не маюць сімптомаў хваробы. 5 пацыентаў ужо выпісалі пасля адмоўных тэстаў на COVID-19, яшчэ 3 «рыхтуюцца да выпіскі». 17 выпадкаў «завезеныя» з іншых краінаў. Апошнія чатыры (з Іспаніі, Францыі, Германіі і Расіі) выявілі на санітарна-каранцінных пунктах. Астатнія ў «кантактаў 1-га ўзроўню» — у тых, хто кантактаваў з хворымі. Пад назіраннем медыкаў цяпер знаходзіцца 1960 чалавек, яшчэ каля 2700 чалавек перасталі назіраць.

# «Закрыццё мяжы — проста знаходка»

**Расія закрыла свае межы ў сувязі з пандэміяй каронавіруса. Эксперты тлумачаць, як гэта паўплывае на дачыненні краінаў і наколькі моцна адаб'ецца на эканоміцы, паведамляе Белсат.**

Кіраўнік аналітычнага праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў мяркуе, што рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі можа нашкодзіць і без таго складаным двухбаковым стасункам. Закрыццё мяжы з Расіяй будзе адчувальным і для эканомікі Беларусі, мяркуе эксперт.

«Безумоўна, эканамічныя наступствы будуць, бо вялікая колькасць беларускіх грамадзянаў, якія жывуць на памежных тэрыторыях, штодня ездзяць працаваць у Расію. Расійскія памежнікі проста не будуць пускаць праз беларуска-расійскую мяжу фізічных асобаў. Выключэнне будуць складаць толькі тыя, хто перамяшчае грузы, афіцыйныя перавозчыкі», — кажа ён.

Палітычны аналітык Ягор Лебядок мяркуе, што хуткіх эканамічных наступстваў не прадбачыцца, бо транспартаванне тавараў не прыпыняецца.

«Тут справа, хутчэй, у інфармацыйным складніку і ў тым, хто больш скарыстаецца сітуацыяй, якая склалася, — Лукашэнка, які можа сказаць, маўляў, Расія зноў на нас ціснe, і выкарыстаць гэта, напрыклад, у сваёй прэзідэнцкай кампаніі, або расіяне. Аднак я не бачу асаблівай нагоды расіянам выкарыстоўваць часовае закрыццё мяжы як інструмент ціску на Мінск у тым жа пытанні з дарожнымі картамі», — гаворыць Лебядок.

Намеснік дырэктара Цэнтра стратэгічных і замежнапалітычных даследаванняў Юрый Царык, наадварот, лічыць, што наступствы для Беларусі будуць вельмі цяжкімі і закрыццё мяжы Расіяй нанясе сур'ёзны ўдар па эканоміцы.

«Значна ўскладняюцца транспамежныя кантакты і бізнес-схемы, асабліва ва Усходняй Беларусі, а таксама перамяшчэнне грамадзянаў, якія працуюць у Расіі вахтавым метадам. Усё разам гэта складае вялікую частку даходаў насельніцтва тых рэгіёнаў.

Далей трэба глядзець, як будзе прымяняцца забарона на практыцы, аднак відавочна, што ў рамках забароны на ўезд фізічных асобаў могуць пачаць не прапускаць і грузавы транспарт, бо ім кіруюць тыя ж фізічныя асобы. У сваю чаргу, можа пацярпець беларускі экспарт», — кажа Царык.

На думку аналітыка, закрыццё мяжы — вельмі сур'ёзны крок, і ён больш важны, чым папярэднія праблемы ў нафтавым сектары.

«Было зразумела, што расійскі бок будзе і далей узмацняць ціск на Беларусь. Мы думалі, што гэта будзе звязана з абмежаваннем доступу беларускіх вытворцаў на расійскі рынак. А тут з'явіўся каронавірус — добрая нагода, каб увесці каранцін на мяжы. Безумоўна, гэта ўзмацняе ціск на нашу краіну ў перадвыбарны год. Нават вырашэнне пытанняў па нафце не гарантуе спакойнага развіцця падзей. Эканоміка ў цэлым атрымала ўжо такі ўдар, якому няпроста даць рады», — адзначае Царык.

Эксперт лічыць, што асабленне эканомікі, звязанае з каранцінам, нафтавым крызісам, а таксама цяжкім станам дзяржаўных прадпрыемстваў, прывядзе сёлета да росту пратэстных настрояў у Беларусі.

# Маладзечанка выйдзе на пікет у абарону правоў дачкі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Актывістка з Маладзечна Алеся Садоўская прайшла праз міліцэйскія катаванні, крымінальныя справы, змяшчэнне ў вар'ятню і адабранне дачкі. Нядаўна жанчыну зноў пакаралі хатняй «хіміяй». Але яна працягвае адстойваць свае правы ды правы свайго дзіцяці і мае намер выйсці на пікет у іх абарону.**

Гісторыя Алесі Садоўскай пачалася ў навагоднюю ноч 2013 года, калі яна адпачывала ў маладзечанскім клубе. Яна заўважыла, што знік яе тэлефон, і выклікала міліцыю. Але замест пошукаў зніклай маёмасці міліцыянты прывезлі жанчыну ў РУУС і збілі — гэта было зафіксавана на камеру відэаназірання. Таксама Алесі Садоўскай пагражалі вар'ятняй і адабраннем дачкі.

Пасля спробы падаць скаргу ў Следчы камітэт на незаконныя дзеянні міліцыі супраць Алесі Садоўскай распачалі крымінальную справу. Калі яна прыйшла ў СК пазнаёміцца з матэрыяламі справы аб збіцці, яна сустрэла начальніка аддзела дэпартамента аховы Івана Косіка, які, па словах жанчыны, справакаваў яе на эмацыйныя дзеянні — яна замахнулася на яго сумачкай. У выніку ў дачыненні да актывісткі завялі крымінальную справу. Ёй прызначылі прымусовае псіхіятрычнае лячэнне ў закрытым стацыянары і на год адабралі непаўнагадовую дачку Кацярыну.

Другую крымінальную справу на жанчыну завялі пасля таго, як на яе напісала заяву начальнік аддзела адукацыі Іна Драпеза. Актывістка тады судзілася за тое, каб ёй аддалі дачку. Аднойчы жанчына прыйшла ў аддзел адукацыі, каб вырашыць гэтае пытанне. Там Іна Драпеза стала здымаць яе на тэлефон. Садоўская папрасіла не здымаць, просьбу праігнаравалі, тады яна паспрабавала забраць у Драпезы тэлефон. Гэта расцанілі як гвалт.

17 чэрвеня 2016 года суддзя суда Маладзечанскага раёна Павел Жачко прызнаў жанчыну вінаватай у гвалце і пагрозе гвалтам у дачыненні да службовай асобы на падставе ч. 1 арт. 366 КК Рэспублікі Беларусь, і прызначыў пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу тэрмінам на два з паловай гады.

— У той раз мне вынеслі два папярэджанні за тое, што я выконвала свае бацькоўскія абавязкі — хадзіла ў школу, купляла красоўкі дачцэ, — распавядае Садоўская. — Хатняя «хімія» — гэта калі ў выхадныя нікуды нельга выйсці, у будныя дні — не больш як на дзве гадзіны ва ўстаноўлены час. Я не магу пагуляць у парку з дзіцем, калі яно хоча, ці пайсці па нейкія лекі, калі яна хварэе, ці ў краму.

Гэты від пакарання для бацькоў, у якіх на ўтрыманні знаходзяцца дзеці, непрымальны, паколькі ён парушае правы дзіцяці, перакананая жанчына.

Адметна, што пазней пракуратура Мінскай вобласці прызнала факты парушэння правоў у дачыненні да чальцоў сям'і Садоўскай, паколькі дачка Алесі год, пакуль за яе ваявалі, незаконна ўтрымлівалася ў сацыяльных установах і прыёмных сем'ях.

На гэтым прыгоды маладзечанкі не скончыліся. 15 ліпеня 2019 года яна прыйшла ў Маладзечанскі райвыканкам на сустрэчу са службовай асобай па асабістым пытанні. Як сцвярджае актывістка, у будынак РВК яна змагла трапіць бесперашкодна, канфлікт з супрацоўніцай аховы, прапаршчыкам Кандратовіч, адбыўся на другім паверсе будынка, калі Садоўская хацела ўвайсці ў малую залу. Па версіі следства, актывістка спрабавала «прарвацца» ў будынак, штурхала супрацоўніцу аховы, тузанула яе за палец і вывіхнула яго. Сама Садоўская сцвярджае, што яна прыйшла на прыём да чыноўніцы, і на яе накінулася супрацоўніца міліцыі, якая вывіхнула сабе палец і потым абвінаваціла Алесю ў гвалце.

У выніку на актывістку завялі крымінальную справу па арт. 364 КК РБ (гвалт у дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў). 11 снежня 2019 года суддзя Іна Каханоўская прысудзіла Садоўскай тры гады абмежавання волі ў выглядзе хатняй «хіміі». Год быў скасаваны па амністыі, такім чынам, засталося два гады.

— У мяне ўжо два прысуды, якія мне вынеслі за тое, што я абараняю правы дачкі, — канстатуе актывістка.

Садоўская можа выходзіць з дому толькі з пісьмовага дазволу міліцыі, інакш яе могуць змясціць на 15 сутак у ІЧУ.

Але Садоўскую гэта не спыняе: у абарону права дачкі на неабмежаваныя зносіны з маці яна абвясціла райвыканкаму аб правядзенні 15 красавіка 2020 года пікету ў Маладзечне на пешаходнай вуліцы Прытыцкага. Жанчына збіраецца пратэставаць супраць парушэння правоў дачкі на зносіны з маці і супрацьзаконных дзеянняў суда, Следчага камітэта, пракуратуры, аддзела міліцыі.

Садоўская лічыць, што віной усяму — беспакаранасць чыноўнікаў, якая вымушае абараняцца, а гэта вядзе да новых парушэнняў і прысудаў.

— Было прызнана, што маёй дачцэ нанеслі шкоду, але чыноўнікі нічога не робяць, хаця Мінадукацыі ім загадала пераглядзець іх непрафесійныя дзеянні. Таму я прыходзіла ў выканкам, каб разабрацца з гэтым, а ў выніку бяздзеянне чыноўнікаў была вымушаная абараняцца і ўзнікла чарговая крымінальная справа.

Адвакат Алесі Садоўскай падаў на прысуд скаргу ў парадку нагляду.

# Аргкамітэт Дня Волі адклікае заяўку на 22 сакавіка

**Аргкамітэт па святкаванні БНР–102 адклікае заяўку на правядзенне мітынга-канцэрта ў сталіцы. Падстава для такога рашэння — распаўсюд каронавіруса і немагчымасць гарантаваць бяспеку ўдзельнікам мерапрыемства.**

Не дачакаўшыся афіцыйнага адказу з Мінгарвыканкаму, арганізатары Дня Волі–2020 прынялі рашэнне спыніць працу па падрыхтоўцы святочнага мерапрыемства. Аргкамітэт прыносіць прабачэнні і просіць з разуменнем паставіцца да сітуацыі, якая склалася.

Сыходзячы з сітуацыі, аргкамітэт па святкаванні БНР–102 будзе вывучаць магчымасць правядзення мерапрыемства ў больш позні перыяд. Пра гэта будзе паведамлена дадаткова.

Нагадаем, што ў аргкамітэт па святкаванні Дня Волі–2020 уваходзяць Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Рух «За Свабоду», Беларуская партыя «Зялёныя», Беларуская хрысціянская дэмакратыя і Аб'яднаная грамадзянская партыя. Заяўка на правядзенне мітынга-канцэрта была пададзеная ад імя першых трох пералічаных вышэй арганізацый на 22 сакавіка. Мерапрыемства ў сталіцы планавалася правесці на пляцоўцы каля дома 15 корпус 20 па вуліцы Кастрычніцкай.

Як адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, які заклікаў да пераносу Дня Волі яшчэ тыдзень таму, «дзеля бяспекі людзей прынята рашэнне перанесці святкаванне Дня Волі на пазнейшы час».

Раней арганізатары святкавання Дня Волі ў Гродна прынялі рашэнне адмяніць мерапрыемства, запланаванае на 21 сакавіка.

**Паводле bchd.info**

# Далёкія ад патрыятызму пачуцці...

Кірыл ІВАНОЎ

**Навіна пра флагшток, на які гомельскія ўлады задумалі выдаткаваць каля 650 тысячаў долараў, нагадала мне адну гісторыю з сярэдзіны нулявых. Неяк я спытаў знаёмага работніка аднаго з калгасаў, ці грэе яму душу чырвоны сцяг, які ў яго гаспадарцы ўздымалі ў тыя гады ў гонар перадавікоў.**

Адказ тады прагучаў у напаўжартаўлівым тоне. Маўляў, ды хай хоць амерыканскі сцяг вывешваюць, абы зарплату плацілі, салярку давалі зліваць і камбікорм дадому ў кішэнях насіць.

Сёння такі флагшток стаіць у цэнтры Занарачы, але выглядае ён гнятліва. Мяркуючы па расказах мясцовых жыхароў, размешчаная на беразе Нарачы гаспадарка перажывае не лепшыя дні. І не яна адна. Роспыты пра заробкі выклікаюць у людзей горкія ўсмешкі. Шмат хто з'язджае ў пошуках працы ў Польшчу і Літву.

Дарагая ідэя чыноўнікаў, што абурыла гамяльчан, — гэта праекцыя таго, што адбываецца ў нашых вёсках, на ўсю краіну. Украіна, якая сёмы год вperíode, дыхае стабільнай Беларусі ў патыліцу: украінскія зарплаты даганяюць нашы з кожным годам. Польскія і літоўскія заробкі выманьваюць працоўную сілу з краіны. Разрыў паміж сталіцай і рэгіёнамі імкліва расце, розніца ў заробках паміж самым багатым і самым бедным раёнам краіны дасягнула тысячы рублёў!

Але некаторым чыноўнікам усё хоць бы што, нібы на двары ўсё тыя ж "мядовыя гады", калі беларусы ў агульнай сваёй масе ў абмен на добрую зарплату заплюшчвалі вочы на розныя кшталту ўпрыгожвальніцтва за кошт бюджэту.

Зрэшты, хоць празмерныя апетыты гомельскіх уладаў і ўражваюць — ад «залатой» прыбіральні ў парку амаль за мільён долараў да не менш каштоўнага флагштока — іх паводзіны не назавеш унікальнымі. Бо ёсць з каго браць прыклад: успомнім і палац для суддзяў з жырандолямі і фантанамі на сотні тысяч долараў, і спартыўныя спаборніцтвы, ад якіх з эканомікі адмаўляюцца багатыя краіны.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Амаль без вірусаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На адным з парталаў фінансавых навінаў 26 з 44 нататак у панядзелак — гэта навіны, што так ці інакш звязаныя з каронавірусам. У аўторак сітуацыя была не лепшай. І гэта — толькі фінансавы партал!**


Фота www.nytimes.com

Зразумела, што глабальныя і лакальныя наступствы пандэміі будуць адчувацца ў свеце вельмі сур'ёзна, і Беларусь тут — не выключэнне. Найперш, канешне, пацерпяць авіяперавозкі — з-за таго, што большасць краін закрылі свае межы. Несалодка давядзецца турыстычнаму бізнесу — варта чакаць зніжэння ўнёску гэтых паслуг (як экспарту, так і імпарту) у бюджэт дзяржавы. Пацерпіць індустрыя забаваў — кіно, тэатры, цырк і канцэрты. Затое моцна падымуцца медычныя і калямедычныя паслугі. А таксама, напэўна, варта чакаць усплёску нараджальнасці — бо што яшчэ рабіць людзям у каранціне?

І без каронавіруса розныя эксперты-эканамісты прадказвалі рэцэсію ці нават крызіс у 2020-м. Але бяда звалілася, адкуль не чакалі. І таму прадпрымальнікі па ўсім свеце заклапочаныя сваім выжываннем. Беларусь — не выключэнне.

Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва накіравала прэм'ер-міністру Сяргею Румасу, а таксама ў Адміністрацыю прэзідэнта ліст з просьбай стварыць пры Саўміне працоўную групу, каб яна выпрацавала комплекс захадаў для падтрымкі бізнесу падчас пандэміі каронавіруса. «Ужо на дадзеным этапе шэраг сектараў эканомікі, у прыватнасці, турызм, перавозкі і іншыя, сутыкаюцца з негатыўнымі наступствамі пандэміі захворвання ва ўсім свеце», — гаворыцца ў лісце.

Канфедэрацыя лічыць, што Беларусі неабходна «выпрацаваць комплекс мераў падтрымкі і стымулявання прадпрымальніцтва ў галіне турызму, транспартных перавозак, гандлю, паслуг і вытворчасці, а таксама па ліквідацыі стратаў».

У прыватнасці, размова ідзе пра тое, каб спрасціць часовы перавод работнікаў на дыстанцыйную працу, замарозіць і адтэрмінаваць унясенне арэнднай платы, аплату камунальных паслуг, доступу ў інтэрнэт і іншае, калі прадпрымальнікі часова не будуць выкарыстоўваць офісы і гандлёвыя памяшканні.

Апроч гэтага прапануецца ўвесці «падатковыя канікулы», каб кампенсаваць арандадаўцам страты і страчаную выгаду. «Варта было б прыпыніць або, магчыма, перанесці на 1–2 года выплату падаткаў на прыбытак, ПДВ, ФСАН, штрафных плацяжоў і пені», — лічыць старшыня вышэйшай каардынацыйнай рады Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін.

Варта зазначыць, што прадпрымальнікі дбаюць не толькі пра сваю кішэню. Канфедэрацыя прапануе даваць льготныя альбо беспрацэнтныя крэдыты прадпрыемствам, медыцынскім і фармацэўтычным арганізацыям, кампаніям транспартнай сферы і іншым, хто задзейнічаны ў пераадоленні распаўсюджвання пандэміі.

Зразумела, гэтыя захады адаб'юцца на бюджэце краіны не ў лепшы бок. Можа быць, усё ж скараціць армію ідэолагаў?

Нягледзячы на каронавірус, Лукашэнка сабраў вялікую нараду з удзелам усяго складу ўрада, кіраўніцтва парламента і Адміністрацыі прэзідэнта, старшыняў райвыканкамаў, каб падвесці вынікі 2019 года. З сумам ён быў вымушаны канстатаваць: «Хваліцца асабліва няма чым» (у прынцыпе, гэта можна казаць штогод апошнюю дзесяцігодку). З аднаго боку, ёсць рост рэальных наяўных даходаў насельніцтва, у тым ліку заработнай платы, пенсій на 6%, дасягнуты нізкі ўзровень інфляцыі ў краіне — 4,7%. На трацінну ўдалося нарасціць золатавалютныя рэзервы, і нават крыху знізіць валавы знешні доўг.

З іншага боку, не дасягнутыя чатыры з сямі (!) найважнейшыя паказчыкі, па якіх ацэньваецца эфектыўнасць дзейнасці ўрада і Нацбанка. Гаворка ідзе пра нарошчванне экспарту, прыток замежных інвестыцый, рост прадукцыйнасці працы і павелічэнне ВУП. «Эканоміка не дасягнула такой ступені ўстойлівасці, каб упэўнена супрацьстаяць уплыву звонку: палітычным настроям, знешнім шокам і іншага роду ўзрушэнням», — крытыкаваў урад беларускі кіраўнік.

Але давайце будзем справядлівыя: хто ў гэтым вінаваты? Хто вызначае і зацвярджае паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця? Хто адказны за прынясце рашэнняў? Хто падпісваў указы пра мадэрнізацыю нафтаперапрацоўкі, і ўрэшце, палажэнні аб «Саюзнай дзяржаве», якой нас прыціснулі?

Урад працуе ў тых межах магчымасцяў, якія яму усталёўвае кіраўнік дзяржавы. Бо немагчыма адначасова выканаць план па росце заробкаў і план па стрымліванні інфляцыі ў эканоміцы, якая не развіваецца. Немагчыма прыцягнуць замежныя інвестыцыі туды, дзе садзяць у турму Баўмгертнера і забіраюць прадпрыемства ў «Мотар Січ». Дый увогуле, немагчымыя інвестыцыі ў краіну, у якой гэтыя інвестыцыі не абароненыя незалежнай судовай сістэмай.

Таму — уся справа толькі ў межах магчымасцяў. Напрыклад, загадаў Лукашэнка знайсці нафту ў абыход Расіі — і гэта было зроблена. У порт Адэсы прыбыў ужо другі танкер з азербайджанскай нафтай для Беларусі, і ўжо пачалася яе перапампоўка з порта па нафтаправодзе «Адэса-Броды». Раней прыплылі 90 тысячаў тон нафты, цяпер — 80 тысячаў, усяго дамоўленасць з Азербайджанам прадугледжвае пастаўку 250 тысячаў тон нафты.

Пытанне, зноў жа, у тым, колькі гэта будзе каштаваць. Напрыклад, пастаўкі нафты з Азербайджана ў Беларусь праз «Адэса—Броды» ажыццяўляліся і ў 2011 годзе. Кантракт прадугледжваў пастаўкі 4 мільёнаў тон, аднак фактычны аб'ём адгрузак склаў каля 900 тысячаў тон.

На гэтым фоне вельмі цікавая навіна прыйшла з Еўразійскай эканамічнай камісіі. На мінулым тыдні Лукашэнка падпісаў указ пра развіццё электратранспарту. Шмат хто адзначыў, што ён паўтарае захады аналагічнага ўказу 2018 года. Крытыкі заўважалі, што павелічэнне папулярнасці электрамабіляў у Беларусі магчымае толькі пры ўмове, калі ўвазная пошліна на іх будзе роўная нулю. Беларусь не магла гэта зрабіць самастойна, бо Расія была супраць. А паколькі ў нас ЕАЭС, мы гэта зрабіць не маглі. Сінявокая неаднойчы падымала гэтае пытанне ў ЕАЭС, і вось — дацiснулі. Савет ЕАЭС абнуліў стаўку ўвазной мытнай пошліны адзінага мытнага тарыфу ЕАЭС на электрамабілі.

Нулявая стаўка будзе дзейнічаць да 31 снежня 2021 года ўключна і ўжывацца пры імпарце электрамабіляў у ЕАЭС як юрыдычнымі, так і фізічнымі асобамі.

Варта чакаць з'яўлення на нашых дарогах электракараў і большай папулярнасці «зялёнага транспарту». І навошта нам тады тая нафта?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Севярынец



**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД нечакана выйшаў з праймерыз па выбары адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі.**

Пасля сустрэчы кандыдатаў-удзельнікаў «Народнага галасавання» (праймерыз) з жыхарамі Брэстчыны Севярынец заявіў, што праймерыз па выбары адзінага кандыдата ў прэзідэнты могуць быць прыпыненыя. Прычыны дзве. Першая — каронавірус, з-за якога многія публічныя мерапрыемствы ў краіне адмяняюцца, другая — удзел у «Народным галасаванні» прадстаўнікоў БРСМ, райвыканкамаў і чыноўнікаў.

«Я сыходжу з працэдуры праймерыз. Сітуацыя, па-першае, па каронавірусе: я настойваў на Радзе, каб спыніць паездкі і сустрэчы, але гэта не было падтрымана іншымі кандыдатамі. Другое пытанне было па ўдзеле прадстаўнікоў райвыканкамаў, але калегі вырашылі, што гэта нармальна, што чыноўнікі ходзяць на праймерыз і галасуюць. У сувязі з гэтым свой далейшы ўдзел у праймерыз лічу немагчымым», — заявіў Севярынец.

Адзначым, што сустрэчы ў межах праймерыз якраз і задумваліся як адкрытыя. І чыноўнік — нічым не горшы выбаршчык за дэмакрата. Што ж да каронавіруса, то Рада «Народнага галасавання» спыніла паездкі прэтэндэнтаў па рэгіёнах ад 18 сакавіка.

## Лявон Вольскі



**Аргкамітэт па святкаванні Дня Волі адмовіўся ад правядзення масавай акцыі 22 сакавіка. Аднак Лявон Вольскі ўсё роўна будзе святкаваць — канцэртам анлайн.**

Музыка паведаміў у сваім фэйсбуку: «Мы планавалі зладзіць 25 сакавіка, у гадавіну абвяшчэння БНР, паўнавартасны электрычны канцэрт з бясплатным уваходам. Абвясціць яго за пару дзён да даты з асаблівым сюрпрызам, вельмі важным для мяне. Зараз сітуацыя вымушае змяніць і гэтыя планы. Але ўгодкі БНР адкласці немагчыма. Таму мы зайграем вялікі электрычны канцэрт 25 сакавіка, але — у рэжыме #online. Праспяваем найлепшыя песні, павіншуем адно аднаго, паразмаўляем з вамі — сусветнае сеціва гэта дазваляе», — напісаў Вольскі.

«І падорым той самы сюрпрыз, які рыхтаваўся. Да ўсяго, у такога фармату ёсць свае неацэнныя плюсы — наведаць канцэрт можна будзе з любой кропкі свету. 25 сакавіка, 20:00», — анансаваў ён.

Раней Лявон Вольскі адмяніў запланаваны на 17 сакавіка канцэрт, прысвечаны Дню святога Патрыка.

## Мітрапаліт Павел



**Пакуль у Расіі святары змагаюцца з каронавірусам праз малітвы і малебны, прадстаяцель БПЦ Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі заклікаў вернікаў і святароў выконваць патрабаванні Міністэрства аховы здароўя.**

Мітрапаліт Павел выдаў спецыяльны цыркуляр, у якім заклікаў паству з разуменнем паставіцца да прафілактычных захадаў, накіраваных на прадухіленне распаўсюджвання ў краіне вірусных захворванняў. Па яго распараджэнні ў храмах каля абразоў, а таксама ля ківот з абразамі і святынямі будзе ўстаноўлена абавязковае дзяжурства царкоўных работнікаў. Яны павінны будуць праціраць іконы антысептычнымі сродкамі або рэчывамі, што ўтрымліваюць спірт, пасля кожнага цалавання вернікамі. «На перыяд эпідэміі магчыма нават устрымацца ад цалавання святынь, замяніўшы яго паклонам», — гаворыцца ў дакуменце.

Святарам рэкамендуецца ўстрымацца ад блаславення праз цалаванне рукі. У царквах дазволена карыстацца аднаразовымі шклянкамі ў час прычашчэння. «Настаяцелям прыходаў і манастыроў неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на захаванне чысціні і санітарных нормаў, а таксама рэгулярна ажыццяўляць вільготную ўборку», — распарадзіўся мітрапаліт.

Настаяцелям прыходаў і манастыроў таксама даручана тлумачыць людзям пра асабістую адказнасць за стан свайго здароўя і здароўя навакольных. «У выпадку адчування нядужання або выяўленых прыкметаў вірусных інфекцыі варта неадкладна звярнуцца да лекара і ўстрымацца ад удзелу ў грамадскай царкоўнай малітве да поўнага выздараўлення, каб не паслужыць прычынай заражэння навакольных», — адзначыў прадстаяцель БПЦ.

а | Азбука паліталогіі

# Дом без гаспадароў



Сяргей НІКАЛЮК

**Днямі мне пашчасціла назіраць пралёт гусей над цэнтрам Мінска. Але ці можна ў гэтай падзеі ўбачыць сімвалічны сэнс? Не ўпэўнены. Уся ўвага сёння прыцягнутая да іншага біялагічнага віду з атрада гусепадобных — лебедзяў, прычым выключна з чорнымі пёрамі.**




Чорны лебедзь з падачы амерыканскага пісьменніка і статыстыка Насіма Талеба даў імя тэорыі, якая разглядае рэдкія падзеі, што складана спрагназаваць, аднак якія спараджаюць значныя наступствы (як правіла, негатыўныя). Чорны лебедзь — гэта сучасны аналаг белага і пухнатага паўночнага звярка з застойных брэжнеўскіх часоў.

Здавалася, гэта ганарлівая птушка, якая добра павесялілася на родных вадаёмах на мяжы 1980–1990-х гадоў мінулага стагоддзя, назаўсёды пакінула ў спакоі Сінявокую. Краіну накрыла стабільнасць. Накрыла нібы тазам — настолькі шчыльна, што адзін выбітны розум, не пазбаўлены ўяўлення, загаварыў пра Беларусь як пра донара еўрапейскай стабільнасці.

Варта прызнаць, што гэтаму розуму на працягу многіх гадоў неаднаразова шанцавала. Ён прыйшоў ва ўладу, калі эканоміка адштурхнулася ад дна, дасягнутага ў выніку калапсу савецкай мадэлі (глядзі табліцу). Натуральна, змену трэнду дзяржаўная прапаганда патлумачыла выбітнай здольнасцю розуму несці сінявокую краіну перад сабой, «як маленькае дзіця». Сам розум наконт такога тлумачэння, натуральна, не пярэчыў.

Крыху эканамічнай статыстыкі. Рэкамендую звярнуць увагу на паказчык 1997 года, калі рэкордныя 111,4% былі атрыманыя насуперак запланаваным 105%. Як правіла, па факце атрымліваецца менш. Напрыклад, у 2013 годзе фактычныя тэмпы прыросту эканомікі адсталі ад запланаваных амаль на парадак: 0,9% замест 8,5%. Якая ж прычына таго, што так істотна былі падкарэктаваныя планы ўрада ў становічы бок у 1997 годзе?

Усю адказнасць варта ўскласці на аднаўленчы рост. Ён «прыходзіць нечакана, як падарунак» (Ягор Гайдар), але працягваецца нядоўга. Аднаўленчы рост — гэта рост за кошт магутнасцяў, якія вызваліліся падчас дасягнення дна: кадры не разбегліся, станкі не распрададзеныя, камплектуючыя не раскралі, а ўнутраны рынак не паспелі акупаваць замежныя канкурэнты.

Аднак доўга аднаўленчае шчасце працягвацца не здольнае, што і пацвердзіла практыка. Да канца 1990-х гадоў тэмпы эканамічнага росту перайшлі з галопу на рысь. З далейшай транспарціроўкай Сінявокай на выцягнутых руках «як маленькага дзіцяці» павінны былі наступіць праблемы. Аднак яны не надышлі. Чорны лебедзь не прыляцеў.

### Рост на фоне дэградацыі

За дзясятыя гады новага стагоддзя сярэднегадавы індэкс экспарту склаў 116,6%. Няўдалым стаў толькі 2009 год (67,2%). Экспарт тавараў у краіны Еўрасаюза з 2000-га па 2010-ы вырас у 3,6 разу. Ведай нашых! Нервова скуголілі ўбаку тыгры Паўднёва-Ўсходняй Азіі…

Такі поспех, як нескладана здагадацца, адзіны палітык (АП) прадставіў у якасці доказу правільнасці курсу. Мы, маўляў, у адрозненне ад нашых суседзяў, не сталі слухаць дактароў з МВФ і не пайшлі на беспадстаўную прыватызацыю. Мы захавалі прамысловыя прадпрыемствы і працоўныя калектывы. Мы, мы, мы…

Чалавеку ўласціва карыстацца добрай рэпутацыяй у самога сябе. АП у гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што рост ВУП ён паставіў сабе ў заслугу, а дэградацыю савецкай прамысловай спадчыны палічыў за лепшае не заўважаць.

Між тым парадаксальнае, на першы погляд, спалучэнне росту і дэградацыі наглядна пацвярджае афіцыйная статыстыка: з 2000-га па 2010-ы працэнт мінеральных прадуктаў, аснову якіх складалі выраблены з расійскай нафты бензін, салярка, мазут і змазачныя масла, у беларускім экспарце павялічыўся з 20,2% да 35,5% пры адначасовым скарачэнні долі машын, абсталявання і транспартных сродкаў з 25,2% да 19,7%.

Але калі фізічны аб'ём экспарту мінеральных прадуктаў за названы перыяд вырас у 1,4 разу, то ў вартасным — у 4,8 разу! За гэта варта быць удзячным росту сусветных цэнаў на нафту! Гэтымі «нажніцамі» і тлумачыцца «сытасць» нулявых гадоў для беларускай мадэлі.

Сцвярджаць, што АП да поспеху сваёй мадэлі не меў ніякага дачынення, азначала б зграшыць супраць ісціны. Яго асабісты ўклад у палітыку «нафта ў абмен на пацалункі» быў істотным, калі не вырашальным. Аднак такі абмен, як ніякі іншы фактар, і паспрыяў дэградацыі вытворчасцяў, што дасталіся ў спадчыну ад савецкага «зборачнага цэху».

Высокія цэны на нафту і нафтапрадукты адышлі — і стала відавочным тое, што на працягу дзесяцігоддзя паспяхова хавала дзяржаўная прапаганда: за чвэрць стагоддзя пад кіраўніцтвам АП у Беларусі так і не ўдалося стварыць здольную да самаразвіцця эканамічную мадэль. Без датацыйнага падсілкоўвання з боку Расіі яна не выжыве.

### Менш за працэнт

Гэтыя простыя высновы ляжаць на паверхні, аднак яны, тым не менш, не аказалі ніякага ўплыву на абраны чвэрць стагоддзя таму эканамічны курс. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова звярнуцца да любога прэс-рэлізу, размешчанага на сайце АП.

9 сакавіка, напрыклад, ён правёў нараду з кіраўніцтвам Савета Міністраў. Сярод разгледжаных дакументаў — «праекты ўказаў аб дадатковым стымуляванні мясцовых органаў улады, аб прапановах па ўдасканаленні працэдуры банкруцтва і абароне правоў работнікаў, аб дзяржнаглядзе за тэхнічным станам трактароў і іншай тэхнікі, аб дэпазітнай сістэме абарачэння спажывецкай упакоўкі і стымуляванні выкарыстання электрамабіляў».

Цікава, пагадзіцеся! На сусветных рынках — паніка, цэны на ўсе віды сыравіны пікіруюць, сярэдні заробак у доларавым эквіваленце ў Беларусі сціскаецца, нібы шчыгрынавая скура, а кіраўнік дзяржавы знаходзіць час разважаць пра дарагую тэхніку, якую ў гаспадарках пасля двух гадоў эксплуатацыі «кідаюць пад плотам як металалом».

**Звярніце ўвагу, хто каго інфармуе па пастаўках нафты і яе перапрацоўцы, і хто з кім узгадняе пытанні. Здавалася б, самымі інфармаванымі людзьмі павінныя быць старшыня канцэрна «Белнафтахім» і намеснік прэм'ер-міністра, аднак усё адбываецца з дакладнасцю да наадварот**

Але ж самае цікавае — АП ведае, што «там, дзе рынак спрацаваў, у прыватніка, яго правярацць не трэба. <…> Не трэба ісці і глядзець, як ён там паставіў тэхніку, як даглядае за ёй: гэта яго асабістая ўласнасць, ён ведае, як з ёй абыходзіцца».

Далей ідзе выснова, якую варта напісаць залатымі літарамі: «Але колькі ў нас такіх гаспадароў? Напэўна, **менш за працэнт** (вылучана. — **Рэд.**). А астатнія будуць хадзіць з працягнутай рукой і прасіць: дайце грошай, каб набыць трактар, таму што пасеяць няма чым. А гэта ўпіраецца ў харчовую бяспеку нашай дзяржавы і велізарныя аб'ёмы экспарту».

Дзяржава, у якой 99 працэнтаў працаўнікоў сельскай гаспадаркі ходзяць з працягнутай рукой — вось такі вынік руху правільным курсам на працягу чвэрці стагоддзя! Тут не пра харчовую бяспеку думаць трэба. Калі так пойдзе і далей, то вяртанне па вясне любога шпака або берасцянкі будзе здольнае справакаваць эфект чорнага лебедзя. На коне незалежнасць і суверэнітэт. Дажыліся!

### Хто каго інфармуе

За што змагаліся, на тое і нарваліся. Не магу ўтрымацца, каб не прывесці яшчэ адзін прыклад з сакавіцкага прэс-рэлізу. 7 сакавіка АП сустрэўся са старшынёй канцэрна «Белнафтахім» Андрэем Рыбаковым і намеснікам прэм'ер-міністра Юрыем Назаравым. Далей цытата: «Да мяне паступіў шэраг прапаноў па пастаўках нафты і перапрацоўцы ў Беларусі. Цяпер такіх прапаноў ужо, дзякуй Богу, нямала. Я хачу з вамі ўзгадніць некаторыя пытанні. І параіцца, якім чынам нам лепш паступіць, што больш эканамічна выгадна».

Алгарытм развіцця падзей у нас адзін — што з нафтай, што з трактарамі. Звярніце ўвагу, хто каго інфармуе з нагоды паступлення прапаноў па пастаўках нафты і яе перапрацоўцы ў Беларусі і хто з кім узгадняе практычныя пытанні.

Здавалася б, самымі інфармаванымі людзьмі ў пытаннях пастаўкі нафты, а ўжо тым больш у пытаннях яе перапрацоўкі, павінныя быць старшыня канцэрна «Белнафтахім» і намеснік прэм'ер-міністра, які курыруе гэты напрамак. На практыцы, аднак, усё адбываецца з дакладнасцю да наадварот. Уся неабходная для функцыянавання эканомікі інфармацыя, абыходзячы непасрэдных выканаўцаў, паступае ў Палац Незалежнасці, а адтуль дазаванымі порцыямі размяркоўваецца па кіраўнічай вертыкалі.

Як ужо было адзначана вышэй, гаспадароў сярод аграрыяў у Беларусі — «менш за працэнт». Якая ж тады колькасць гаспадароў у прамысловасці (гаворка, зразумела, ідзе пра дзяржаўны сектар)?

***

У юнацтве я прачытаў раман нямецкага пісьменніка Генрыха Бёля «Дом без гаспадара». Раман напісаны ад асобы хлопчыка, якому выпала шчасце жыць у пасляваенныя гады ў сям'і без бацькі. Сям'ю не варта блытаць з краінай. Розніца тут хутчэй якасная, чым колькасная, і таму наяўнасць аднаго гаспадара ў краіне азначае адначасова адсутнасць мільёнаў гаспадароў.

**ІНДЭКС ВАЛАВОГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ (у працэнтах да папярэдняга года)**

| 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 98,8 | 90,4 | 92,4 | 88,3 | 89,6 | 102,8 | 111,4 | 108,4 | 103,4 |

Беларусь
Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



6–7 РЭДКІЯ РЫБНЫЯ ДНІ

8 «ЗДАБЫТАК НАРОДА» І «ПУСТЫЯ КАЛОДЗЕЖЫ»
МНОГІЯ ВАДАЁМЫ БЕЛАРУСІ ЎЖО АДДАДЗЕНЫ Ў АРЭНДУ



Фота www.zviazda.by

# Рыбагадоўля: ад карпа да чорнай ікры

Павел КІРЫЛАЎ

**І рэк, і азёраў мы маем зашмат, як співаў Аляксандр Кулінковіч, а мораў няма, акіянаў няма. Таму рыбай мы сябе забяспечыць напоўніцу не можам. Гэты пункт нацыянальнай харчовай бяспекі ў Беларусі выконваецца пераважна за кошт імпарту. Між тым, прамысловая рыбагадоўля ў Беларусі пашыраецца і разнастайваецца.**

Рыбная гаспадарка ў Беларусі складаецца з рыбагадоўлі (або аквакультуры), калі таварныя рыбы вырошчваюцца ў адмысловых штучных умовах, і з рыбалоўства, калі рыбы здабываюцца з дапамогай ловаў на натуральных прыродных угоддзях.

Рыбагадоўля — гэта сажалкавая рыбагадоўля, вырошчванне рыбы ў садках, басейнах і ўстаноўках замкнёнага водазабеспячэння. Валаствавальнай з'яўляецца сажалкавая рыбагадоўля. Працуе яна паводле Дзяржаўнай праграмы развіцця аграрнага бізнесу на 2016–2020 гады — дакладней, згодна з яе падпраграмай «Развіццё рыбагаспадарчай дзейнасці». Перад яе прыняццем у 2015 годзе было атрымана амаль 10 тысячаў тонаў таварнай сажалкавай рыбы. Сёлетняя задача — больш за 15 тысячаў тонаў. Іншыя эканамічныя ўстаноўкі з Дзяржпраграмы: індустрыяльная вытворчасць так званых каштоўных відаў рыбы і вылоўліванне азёрна-рачной — па 1,2 тысячы тоны, скарачэнне да двух гадоў цыклу вырошчвання таварнай рыбы, каб яе сабекошт знізіўся на 15%. А таксама павышэнне рыбапрадукцыйнасці сажалак за кошт павелічэння долі вырошчвання расліннаедных і драпежных рыбаў, каб атрымліваць болей рыбнай прадукцыі без выкарыстання штучных камбікармоў.

## Стаўка на карпа

Паводле разлікаў Інстытута рыбнай гаспадаркі Акадэміі навук Беларусі, «сыходзячы з аб'ёму фактычнага спажывання, рэкамендаванай долі рыбы ў мяса-рыбным балансе пры паўнавартасным харчаванні і наяўнасці крытычнага імпарту (таго, што не можа прадукавацца ўласнымі сіламі)», аб'ём унутранай вытворчасці (з улікам аматарскага вылоўлівання) павінен складаць каля 25 тысячаў тонаў. З улікам чынніка самазабеспячэння насельніцтва (статыстычны паказчык аматарскага вылоўлівання для ўласнага спажывання вагаецца ў межах 7,2–7,7 тысячаў тонаў на год), разліковы аб'ём вытворчасці ў 2020 годзе па факце можа скласці да 25,5 тысячы тонаў».

Узровень самазабеспячэння рыбай у Беларусі роўны 15%. Для параўнання, мясам — 135%, малаком — 235%, бульбай — 105%, садавіной і ягадамі — 80%. Штогод апошнім часам мы імпартуем каля 180 тысяч тонаў рыбы і рыбапрадуктаў. Праўда, не толькі, каб усё гэта з'есці, а каб перапрацаваць і экспартаваць. У асноўным у Расію. Калі супраць яе ўвялі харчовыя санкцыі, наш рыбны экспарт туды вырас па некаторых пазіцыях нават больш як у 10 разоў. Так нарадзіліся анекдоты пра крэветкі ў беларускіх азёрах. Расійскі бок дагэтуль заварочвае беларускія грузы з вырабамі з нарвежскіх фарэлі і ласося, да якіх мае ветэрынарныя прэтэнзіі. Свежы такі выпадак адбыўся ў гэтым годзе з кансервамі ад «Санта Брэмар».

Працаўнікі беларускай рыбагадоўлі займаюцца двума дзясяткамі прамысловых відаў рыбаў. У сажалкавай рыбагадоўлі, якае дае асноўны аб'ём вытворчасці, лідар — карп, або сазан. Адразу вызначымся з найменнямі: карп — гэта акультураны, адамашнены сазан, яго падвід. Сазан прадаўгаваты, карп больш акруглены і тоўсты з прычыны больш спакойнага ладу жыцця ў стаячых сажалках.

На карпа прыпадае пад 80% аб'ёмаў прадукцыі ў сажалкавай рыбагадоўлі. Па 3–5% — на карася, таўсталобіка ды амура. Верхаводзіць у рыбнай прамысловасці карп не толькі ў Беларусі, але і па ўсім свеце. Бо гэта не толькі карыснае мяса, якое ўтрымлівае да 20% бялку і 10% тлушчу, але і вельмі прадукцыйная рыба. Карп усёедны, пладавіты і хутка расце. На другі год жыцця гэта ўжо паўкілаграмовая рыбіна, трохгодкі важаць ужо з кілаграм. Да ўсяго карпа можна гадаваць разам з іншымі відамі рыбаў — ад таўсталобіка да сама. У выніку сабекошт вырошчвання карпа самы нізкі сярод усіх відаў у нашай рыбагадоўлі.

У карпа шмат розных пародаў: селекцыйная праца не спыняецца. Вучоныя выводзяць гібрыдаў пад асобныя рэгіёны і нават пад канкрэтныя рыбгасы. Ну, і натуральна, разам з высокай прадукцыйнасцю, пароды павінны быць з як мага большай ядомай часткай — у прыватнасці, з адносна малымі галавой і хвастом. Шмат адмыслоўцы Інстытуту рыбнай гаспадаркі працуюць і над рэцэптурамі танных кармоў. Напрыклад, у іх можна дадаваць крупавую мучку — адходы, якія атрымліваюцца пасля шліфавання зерня.

## Фарэлізацыя

Між тым, міжнародныя эксперты робяць прагноз, што доля рыбагадоўлі ў сусветнай вытворчасці рыбнай прадукцыі будзе расці — да дзвюх трацінаў у 2030 годзе. Справа ў тым, што рыбалоўчая здабыча дасягнула мяжы — назіраецца нават так званае перавылоўліванне ў натуральных водных угоддзях, а попыт на рыбу сярод спажыўцоў павялічваецца. Перадусім будзе расці гадоўля карпа і асабліва тыляпіі, якой хапае ў нашых крамах і да якой у многіх неадназначнае стаўленне. Але праўда і міфы пра падобную рыбу — асобная тэма.

Нашы адмыслоўцы-іхтыёлагі адзначаюць, што развіццё сажалкавай рыбагадоўлі магчыма «толькі за кошт аптымізацыі выкарыстання існых плошчаў у накірунку росту эфектыўнасці дзейных тэхналогій вырошчвання рыбы, у тым ліку праз рэсурсазберажэнне і асваенне навуковых распрацовак». А рост прадукцыі індустрыяльнай аквакультуры прадугледжваецца ў асноўным за кошт выхаду на праектныя магутнасці пабудаваных нядаўна рыбагадоўчых комплексаў і ад узвядзення новых магутнасцяў. Гаворка пра так званыя каштоўныя віды рыбаў — фарэль і асятровыя.

У 2011 годзе іх гадоўля ў Беларусі склала 100 тонаў, а цяпер ужо каля 1 тысячы тонаў. Аснова вытворчасці — фарэль (71%) і асятровыя (28%), малая рэшта прыпадае на афрыканскага сома. Калі карп — гэта рыбны эканам-клас, то фарэль — зразумела, прэміумны. Як мармуровая ялавічына ў жывёлагадоўлі. Як і ёй, фарэлегадоўляй цікавіцца кіраўнік краіны. Летам мінулага года Лукашэнка наведваў адну з такіх гаспадарак на Магілёўшчыне і даручыў актуалізаваць Дзяржаўную падпраграму «Развіццё рыбагаспадарчай дзейнасці». Па яго словах, трэба як мінімум падвоіць вытворчасць рыбы.

Хаця агулам Дзяржаўная падпраграма «Развіццё рыбагаспадарчай дзейнасці» выконваецца, але, аналізуючы сітуацыю, у Інстытуце рыбнай гаспадаркі адзначаюць, што «нягледзячы на некаторы агульны рост, маецца шэраг сур'ёзных чыннікаў, якія стрымліваюць далейшае павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці айчыннай рыбапрадукцыі».

Адсутнасць росту ў рыбалоўстве звязана ў тым ліку са скарачэннем колькасці арандатараў (карыстальнікаў) рыбалоўных угоддзяў. А прычыны нізкай эфектыўнасці вядзення імі рыбалоўства эксперты бачаць, напрыклад, у значных арганізацыйных выдатках на ўладкаванне ўгоддзяў без гарантыі іх акупляльнасці пры фіксаванай квоце вылоўлівання, нестабільных арэндных стаўках і ў абавязковай умове зарыблення ўгоддзяў, нават калі ў гэтым няма біялагічнай мэтазгоднасці. Дарэчы, у структуры прамысловага вылоўлівання дробны і буйны часцікі падзяляюцца прыкладна напалову. Дробны часцік — гэта плоткі, акуні, карасі, буйны — лешч, шчупак, карп. Гэтыя рыбы лічацца не надта каштоўнымі, у тым ліку таму што яны касцістыя.

Часцікам сталі называць такія пароды рыбаў ад сеткі, якой яны вылоўліваліся. Асноўная маса такой рыбы прадаецца на мясцовых рынках па дастаткова невысокіх коштах, што не спрыяе росту рэнтабельнасці такіх рыбных гаспадарак.

Таксама праблемы ў сажалкавай рыбагадоўлі — гэта недастатковая забяспечанасць рыбагадоўчых гаспадарак паўнавартаснымі кармамі і мінеральнымі ўгнаеннямі ў асноўны сезон кармлення (чэрвень-ліпень). Прычына — дэфіцыт крэдытных рэсурсаў на іх пакупку праз складаны фінансавы стан, а таксама высокі кошт рыбных кармоў ад беларускіх камбікормавых заводаў. Гэта, у сваю чаргу, адбіваецца на сабекошце і аб'ёмах рэалізацыі таварнай рыбапрадукцыі. Калі браць індустрыяльную рыбагадоўлю, то тут праблема палягае ў адсутнасці спецыялізаванай лінейкі рыбных камбікармоў належнай якасці для розных каштоўных відаў рыбаў. Асобная праблема ў фарэлегадоўлі — праца на завозным пасадачным матэрыяле, бо няма ўласнай маткавай чарады фарэлі, які забяспечвае патрэбу індустрыяльных комплексаў у такім матэрыяле.

Можна спрагназаваць, што гадоўля каштоўнай і далікатэснай рыбы будзе пашырацца як за кошт унутранага спажывання, так і праз экспартныя перспектывы. Беларуская чырвоная і чорная ікра — гэта ўжо рэчаіснасць.

# Рэдкія рыбныя дні

Павел КІРЫЛАЎ

**Рыба і рыбапрадукты — адна з пазіцый у харчаванні, па якой беларусы недаядаюць. Прычым істотна — амаль удвая ад належных рацыён-нормаў. І пакуль мы не надта спяшаемся браць прыклад з японцаў, якія з'яўляюцца вялікімі рыбаедамі і доўгажыхарамі. Значна ўплывае тое, што самая смачная і карысная рыба каштуе заўважна болей за хадавую кураціну.**




Фота www.dzyannica.by

**Беларусы аддаюць перавагу марской рыбе, бо яна смачнейшая і з ёй менш кухарскага клопату. Рыба з нашых рэчак і азёраў папросту больш касцістая**

На аднаго жыхара Беларусі цяпер прыпадае каля 13 кілаграмаў рыбы і рыбапрадуктаў на год. Медыкі ж рэкамендуюць з'ядаць ад 16 да 24 кілаграмаў. Сярэдні сусветны паказнік акурат у гэтым прамежку — 20 кілаграмаў. Далёкія беларусы і ад вытрымлівання Рацыянальных нормаў спажывання прадуктаў, распрацаваных нашым Навукова-практычным цэнтрам па харчаванні пры Акадэміі навук. Паводле іх, дзецям і падлеткам ад 7 да 17 гадоў варта есці 24,5 кілаграм рыбы і рыбапрадуктаў на год. А паўнавартасны рацыён дарослых павінен складаць (у залежнасці ад полу і ўзросту) 20—25 кілаграмаў.

### Марскія густы

Падчас мінулагодняй выставы «Белагра–2019» сярод яе наведнікаў было праведзена апытанне наконт перавагаў у спажыванні канкрэтных розных відаў рыбы і частаты спажывання. Высветлілася, што 3,9% беларусаў зусім не ядуць рыбы, 1,5% ядуць яе раз на год, 2,6% — раз на паўгода, 5% — раз на тры месяцы, 14,3% — раз на месяц, 19,8% — раз на тыдзень. Праз дзень ядуць рыбу 7,6% нашых грамадзян, а штодня — 3,9%.

Якая ж самая папулярная рыба ў беларусаў у нячастыя, як аказалася, «рыбныя дні»? Пераважае розная марская рыба (31%), далей асобна ідзе самы што ні на ёсць мас-маркетны карп (20,9%), за ім ласасёвыя (15,1%), рачная і азёрныя рыбіны (8,2%), зноў жа асобнымі пазіцыямі — таўсталобік (7,6%) і амур (5,2%), паблізу ў рэйтынгу асятровыя (5%).

Беларусы аддаюць перавагу марской рыбе, бо яна смачнейшая і з ёй менш кухарскага клопату. Рыба з нашых рэчак і азёраў папросту больш касцістая. Натуральна, што багата касцістых відаў і ў марскіх рыбаў, але гаворка пра самыя папулярныя ў крамах — мінтай, хек, палтус, траску. Нарэшце, марскія рыбіны больш карысныя па вітамінным шэрагу за нашыя.

Падчас апытання таксама выявілася, як адзначаюць у Інстытуце рыбнай гаспадаркі, «тэндэнцыя аддавання перавагаў гатовай рыбнай прадукцыі або паўфабрыкатам, рыбе, ачышчанай ад луску і ўнутраных органаў». Выснова адмысловцаў: «Пры нарошчванні вытворчасці рыбы ў сажалкавых гаспадарках і індустрыяльных комплексах неабходна ўлічваць магчымасці і магутнасці перапрацоўчых прадпрыемстваў».

# Рыбы і хібы: карысныя

Вольга БУЖАВА

**Паколькі беларусы ядуць рыбы мала, то і спажывецкі досвед датычна яе маюць небагаты. «Новы Час» распавядзе пра тое, якая рыбная прадукцыя свежая, якасная і бяспечная і пра верагодныя хітрыкі прадаўцоў.**

З восені 2019 годзе пачаў напоўніцу дзейнічаць тэхнічны рэгламент Еўразійскага эканамічнага саюза «Аб бяспецы рыбы і рыбнай прадукцыі». Уся прадукцыя на тэрыторыі Беларусі цяпер павінна адпавядаць яму, а не нацыянальным патрабаванням, як раней. У тэхрэгламенце гаворыцца, што ён распрацаваны дзеля абароны здароўя людзей і скіраваны на папярэджанне дзеянняў, якія маглі б уводзіць спажыўца ў зман наконт прызначэння і бяспекі рыбнай прадукцыі.

### Лёд замест рыбы

Тычыцца ж дакумент уласна рыбы, водарасцяў, бесхрыбтовых у розных выглядах (ад жывых да замарожаных), вэнджанай і сушанай прадукцыі з частак рыбы, рыбных паўфабрыкатаў, дзіцячага харчавання на аснове рыбнай прадукцыі, ікры, рыбных кансерваў, рыбнага тлушчу, фаршу і імітацыяў рыбнай прадукцыі. Так, ёсць і такая: напрыклад, імітаваная чырвоная ікра, якую негурманы і тыя, хто рэдка яе спажывае, хіба не адрозняць ад натуральнай.

Тэхрэгламентам вызначаныя дапушчальныя ўзроўні ўтрымання ў рыбе і рыбнай прадукцыі ветэрынарных прэпаратаў, стымулятараў росту і лекаў, у тым ліку антыбіётыкаў. У маркіроўцы, апрача даты вырабу, тэрміну прыдатнасці і ўмоваў захоўвання, мусяць быць пазначаныя найменне рыбнай прадукцыі, від раздзелкі (напрыклад, філе мінтая) і від апрацоўкі (да прыкладу, марынаванне). Павінна пазначацца маса нета, прычым для марожанай рыбы ці рыбнай прадукцыі — вага без глазуры.

Глазураванне — гэта працэс утварэння абарончага слоя лёду на паверхні марожанай харчовай рыбнай прадукцыі. Паводле тэхрэгламенту, маса глазуры на рыбе не павінна перавышаць 5% яе вагі, на ачышчаных ракападобных — 7% (напрыклад, на крэветках), а на не ачышчаных — 14%. Можна праверыць, як выконваюцца гэтыя пункты тэхрэгламенту, набыўшы замарожаную рыбу і ўзважыўшы яе адразу і пасля размарозкі. Ёсць нарматывы і па ўтрыманні вільгаці ў мышачных тканках рыбы ў залежнасці да яе віду. Рэч у тым, што часам рыбу напампоўваюць спецыяльнымі растворамі і прадаюць нам, па-сутнасці, ваду. Здараецца, што нахабна парушаныя нарматывы і па глазуры, і па вільгаці ў рыбіных мышцах. У выніку рыба нібыта па танным коштце насамрэч абыходзіцца нам у капейчыну-рубельчыну.

Якая рыба самая карысная? Канешне, многія нашы вытворцы рэкламуюць прэснаводную беларускую — і з пачуцця патрыятызму, і дзеля продажаў, але марская рыба больш карысная, чым наша азёрная ці рачная. Дый хіба яна і смачнейшая. Нездарма і купляе народ болей менавіта морапрадукцыі. Да ўсяго з марской рыбай менш кухарскага клопату. Рыба з нашых рэчак і азёраў папросту больш касцістая. Натуральна, што багата касцістых відаў і ў марскіх рыбаў, але гаворка пра самыя папулярныя ў крамах — мінтай, хек, палтус, траска.

Марская рыба сярод іншага насычае арганізм кіслотамі амега-3 і амега-6, якія ўваходзяць у склад клетак галаўнога мозгу і з'яўляюцца будаўнічым матэрыялам для клетачных мембранаў, зніжаюць узровень халестэрыну ў крыві, мінімізуюць развіццё атэрасклерозу. Дэфіцыт згаданых кіслотаў правакуе рызыку развіцця сардэчна-сасудзістых захворванняў. Вялікае ўтрыманне фосфару ў рыбе, які лічыцца элементам бадзёрасці, спрыяе працы нервовай сістэмы і павялічвае працаздольнасць. Дзякуючы ёду належным чынам працуе эндакрынная сістэма.

Рыбную дыету лекары рэкамендуюць людзям пры атлусценні, хваробах пячонкі, страўніка і пры праблемах са шчытападобнай залозай. Амега-3 таксама дабратворна ўплывае на вастрыню зроку, стан скуры, валасоў і пазногцяў. Амерыканская асацыяцыя сэрца рэкамендуе з'ядаць мінімум 200 грамаў рыбы на тыдзень — гэта могуць быць ласось, скумбрыя, тунец, фарэль ці сардзіны. А расійскія вучоныя вызначылі рыбу-чэмпіёна па карыснасці: баганідскі галец утрымлівае рэкордныя 33 міліграмы амега-3 на адзін грам.

Галец прадаецца і ў Мінску — па 15 рублёў за кілаграм. Дарэчы, амега-3 лепш спажываць менавіта праз рыбу, а не ў выглядзе дадаткаў кшталту рыбінага тлушчу, эфектыўнасць якіх пад пытаннем. Дарэчы, маецца яшчэ адзін варыянт прыроднага здабыцця амега-3 і амега-6 — алей з ільнянога насення.

Рыба мае шэраг перавагаў перад мясам. У розных гатунках мяса ўтрымліваецца да 18 грамаў чыстага бялку на 100 грамаў, а ў рыбе — да 24 грамаў. Пры гэтым мяса засвойваецца арганізмам чалавека на 89%, а бялок рыбы амаль што цалкам — на 98%! Нарэшце, мяса пераўтраўліваецца цягам 4 гадзін, а рыба — 2 гадзін. Праверце і параўнайце свой стан і адчуванні страўніка пасля добрай вячэры.

### Сакрэты тылапіі

Аднак часам рыбы тояць у сабе небяспеку. Некаторыя віды драпежных рыбаў (тунец, скумбрыя, хек, гарбуша) лекары не рэкамендуюць спажываць жанчынам падчас цяжарнасці і лактацыі. Прычына — у высокім утрыманні ў іх, а таксама ў малюсках, ртуці. Бывае, што людзей палохае свячэнне скумбрыі ў цемры. Гэта праз люмінесцэнтныя бактэрыі, якія жывуць у моры. Пры правядзенні тэрмічнай апрацоўкі яны гінуць і не шкодзяць чалавеку.

Асабліва пільнымі трэба быць у адпачынку ў цёплых краях — напрыклад, у Егіпце. Памятаеце гісторыю, калі ўвосень мінулага года сямейная пара з нашай краіны атруцілася вячэрай у адным з гатэляў Шарм-эль-Шэйха? Дарэчы, атрутны і наш мясцовы вугар. Дакладней, яго сырое мяса і кроў. Але несмяротна. Праўда, калі кроў вугра патрапіць вам на рану, то будзе запаленне. Нічога добрага для здароўя не будзе ад спажывання пангасіуса, які шырока прадаецца ў нас. Гэта — смеццевая рыба, хаця смачная і недарагая.

Смеццевай яе называюць таму, што разводзяць у в'етнамскай рацэ Меконг, якая лічыцца ці не самай бруднай у свеце праз выкіды ў яе фекалій і бытавога смецця. Пангасіус выжывае нават там, дзе гінуць водарасці. Апрача таго, гэтую рыбу сілкуюць гармонамі росту. Зрэшты, ёсць версія, што такія негатыўныя характарысты-

Зрэшты, магутнасці ёсць, але арыентаваныя рыбаапрацоўчыя прадпрыемствы ў нашай краіне перадусім на імпартную сыравіну — марскую рыбу і ласасёвых. Затое асятровымі яны забяспечаныя ў асноўным сваімі.

90% беларускіх асятровых (асетр, бесцер, сцерлядзь) дае самы буйны і па плошчах, і па аб'ёмах вытворчасці рыбгас у краіне — «Сялец», што знаходзіцца ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Займаюцца тут і перапрацоўкай. Выпускаюць замарожаныя паўфабрыкаты — такія, як «рыба ахаладжаная на лёдзе, рыба замарожаная расфасаваная, тушка ў вакуумнай упакоўцы і без, філе без костак у вакуумнай упакоўцы». Апрача таго, вэндзяць сажалкавую і азёрна-рачную рыбу ў розным выглядзе раздзелкі (і цалкам, і кавалкамі). У яшчэ адным вядомым рыбгасе — «Волма» ў Чэрвеньскім раёне Міншчыны — таксама прадаюць як жывую рыбу ад сцерлядзі да шчупака, так і рыбапрадукцыю: ад рыбнага фаршу да вэнджаных карпаў і асятроў.

Дарэчы, многія пакупнікі не любяць ці баяцца чысціць рыбу, а таму той самы патрошаны карп дастаткова папулярны ў крамах. З іншага боку, многія яго не пераносяць, бо ім пахне сажалкай. Дарэчы, крамы, якія маюць раздзелачныя цэхі, звычайна самі не «гільяцінуюць» карпа, а вось дарагую рыбу прэміум-класа гатовы раздзелваць задарма самі, бо гэта выгадна. Тых ж сібаса ці фарэль. Ну а самыя топавыя рыбіны ў спажыўцоў дзякуючы невысокім коштам — мінтай ды хек. Цалкам ці ў выглядзе філе.

Згаданага мінтая народ любіць не толькі за дэмакратычны кошт, але і за дыетычнасць. Тлушчу ў ім мала, а бялку шмат, каларыйнасць нізкая, белае мяса мінтая не касцістае. Сярод небяспекаў — магчымая алергія на марскую рыбу і морапрадукты. І такі нюанс: паколькі мінтай посны, то вельмі часта яго гатуюць у паніроўцы ці кляры, з-за чаго дыетычнасць гэтай рыбіны знікае.

### Кітай, кансервы і АЭС

Самая вядомая і буйная рыбаперапрацоўчая кампанія ў Беларусі — брэсцкая «Санта Брэмар». Яна ўваходзіць у холдынг «Санта», часткай якога з'яўляецца і вядомае малочнае прадпрыемства «Савушкін прадукт». Гэта актывы Аляксандра Машэнскага, які ўзначальвае Топ-200 беларускіх бізнесоўцаў. У пазамінулым годзе ён увайшоў яшчэ і ў Топ-5 рытэйлераў, атрымаўшы кантроль над крамнай сеткай «Рублёўскі». Апрача таго, Машэнскі займаецца нерухомасцю, гатэлямі і рэстаранамі. А паўстала «Санта Брэмар» пры канцы 1990-х гадоў, калі бацька Аляксандра Машэнскага Міхаіл Машэнскі наведаў прадпрыемства аднаго са сваіх заходніх партнёраў, якое вяло рыбаперапрацоўку з першай паловы XX стагоддзя. Цяпер гэта шэраг заводаў у Беларусі і Расіі, якія выпускаюць рыбапрадукцыю пад брэндамі ўласна «Санта Брэмар», «Матыяс» і «Рускае мора». У якасці сыравіны закупляецца нарвежскі селядзец і ласось.

Беларускі рыбны экспарт — гэта пераважна пастаўкі ў Расію ды Літву. Згаданы рыбгас «Сялец» летась упершыню ажыццявіў продаж шчупака ў Польшчу. Экспарт беларускія рыбныя гаспадаркі, якія ўваходзяць у аб'яднанне «Белвадгас», маюць намер нарошчваць якраз дзякуючы павелічэнню аб'ёмаў перапрацоўкі сваёй сыравіны. Напрыклад, на рыбакамбінаце «Любань» нядаўна запусцілі кансервавую вытворчасць — могуць вырабляць 10 мільёнаў бляшанак на год. Кансервы з'яўляцца як на ўнутраным рынку, так і стануць пастаўляцца за мяжу. Ёсць планы выйсці з імі ў прыватнасці на новы кірунак — у Кітай.

**Рыбныя кансервы — гэта не толькі зручна, але і карысна, хаця многія лічаць, што ў іх знішчаюцца карысныя элементы. Гэта не так: рыбныя кансервы — файная крыніца амега-3, вітамінаў D і B і так далей**

Кітайцы — лідары ў свеце па вытворчасці рыбы, а вось рыбныя кансервы там — прадукцыя незвычайная. Што праўда, трэба яшчэ прайсці адмысловую сертыфікацыю. Іншыя прадпрыемствы рыбнай галіны нашай краіны таксама наважаныя прадаваць сваю прадукцыю Кітаю. Дарэчы, у 2019 годзе і самі беларусы сталі заўважна болей купляць рыбных кансерваў — амаль на 15%, чым пазалетась. Адмыслоўцы кажуць, што рыбныя кансервы — гэта не толькі зручна, але і карысна, хаця многія лічаць, што тэхналогіі іх вырабу знішчаюць карысныя элементы. Гэта не так: рыбныя кансервы — файная крыніца амега-3, вітамінаў D і B і так далей.

Працэс прасоўвання на кітайскі рынак пакуль адкладзены праз каронавірусны каранцін. Што да іншых вонкавых чыннікаў, якія ўплываюць на рыбную гаспадарку і рыбаперапрацоўку, то асобны галаўны боль для працаўнікоў галіны — цёплая зіма. Рыба становіцца больш рухомай у штучных вадаёмах і губляе вагу. Гэта азначае, што будзе больш выдаткавана кармоў, каб кампенсаваць страты праз такія кліматычныя змены. Скажам і пра АЭС ля Астраўца. Аказваецца, яе запуску чакаюць і рыбаводы. Рэч у тым, што для выспявання маткавай рыбнай чарады і вырошчвання рыбіных лічынак патрэбная цёплая вада. Для гэтага, напрыклад, выкарыстоўваецца канал Бярозаўскай ГРЭС. Паміж міністэрствамі сельскай гаспадаркі і энергетыкі прапрацоўваецца варыянт, калі ў выпадку спынення станцыі ў Бярозе гэтыя працэсы рыбагадоўлі будуць перанесены на цёплыя воды Астравецкай АЭС.

Адзін з фактараў, чаму рыбныя гаспадаркі самі вырашаюць пачынаць ці пашыраць перапрацоўку, палягае ў спрэчках паміж вытворцамі рыбы і прадаўцамі. То-бок, паміж рыбгасамі і сеткамі крамаў. Праблемнае пытанне — цэнаўтварэнне, а ў прыватнасці тое, як крамы фарміруюць цэннік. Пастаўшчыкі наракаюць, што нацэнка можа сягаць да 100%, і выступаюць за іх фіксаваныя памеры, як у выпадку з мясам ды малаком. Пры гэтым часта гандаль згодны браць на рэалізацыю рыбу па нізкіх коштах, не выгадных вытворцу. Але той вымушаны пагаджацца, бо сезонная вытворчасць мае свае асаблівасці. Трэба хутчэй прадаць рыбу, каб мець сродкі на вядзенне іншых рыбагадоўчых працаў, у тым ліку скіраваных на пашырэнне вытворчасці.

Крамы будуюць свае перапрацоўчыя цэхі, рыбгасы — свае. А трэба нейк дамаўляцца і дзяліць дададзеную вартасць. Логіка тут простая: калі айчынная вытворчасць будзе мець за што развівацца, то будзе змяншацца сабекошт рыбнай прадукцыі, а пакупнік, адпаведна, зможа купляць яе танней.

# парады спажыўцам



кі хоць і небеспадстаўныя, але перабольшаныя канкурэнтамі — «чорны піяр» у адказ на азіяцкі рыбны дэмпінг.

Падобныя прэтэнзіі гучаць і да тылапіі, якую азіяцкія вытворцы выкарыстоўваюць і як біязнішчальніка бытавых адкідаў. Апрача таго, якраз тылапію напампоўваюць поліфасфатамі, каб мышачныя тканкі ўтрымлівалі вільгаць і павялічвалі вагу. У філе робіцца ін'екцыя воднага раствору гэтых поліфасфатаў, пасля чаго яно замарожваецца. Так рыбіна набухае і можа павялічыцца ў вазе да 50%. Адпаведна, столькі ж мы і пераплачваем. Думаю, вы не раз, смажачы такую рыбу, маглі здзіўляцца, як шмат на патэльні яна губляе ў памерах. А яшчэ становіцца шараватай. Зрэшты, гэта можа зразумець і да гатавання на этапе размарозкі. Калі на рыбіне глянец — гэта эфект поліфасфатаў.

Таксама мы вывучылі даследы расійскай некамерцыйнай арганізацыі «Расякасць», якая па даручэнні расійскага ўраду праводзіць лабараторнае вывучэнне розных тавараў, у тым ліку харчовых. Паколькі беларускай сельскагаспадарчай прадукцыі на расійскім рынку багата, то рэгулярна даследуецца і яна.

Вынікі станоўчыя. Напрыклад, філе сёмгі слабасалёнае ад «Санта Брэмар»: вонкавы выгляд прэтэнзіяў не выклікае, гельмінтаў не знойдзена, таксічных элементаў таксама, вытворца выкарыстаў кансерванты ў меру, далі б расійскі «Знак якасці», але прадукцыя беларуская. Такі спрэчны прадукт, як крабавыя палачкі, таксама прызнаны якасным і бяспечным: «Не ўтрымліваюць кансервантаў і сінтэтычных фарбавальнікаў». Разам з тым: «У складзе крабавых палачак не было знойдзена пабочных ДНК (соі і кукурузы), аднак у іх надта шмат крухмалу».

А вось іншая арганізацыя «Раскантроль» нібыта знайшла ў той самай беларускай сёмзе кансервант, якога быць не павінна: «Экспертыза выявіла ўтрыманне кансерванту Е211 (бензаат натрыю). Між тым, вытворца пазначыў на этыкетцы, што прадукт «Без кансервантаў». Гэта кваліфікуецца як падман спажыўца, нават нягледзячы на тое, што ўтрыманне бензаату натрыю не перавышае межы, устаноўленыя тэхнічным рэгламентам і санітарнымі нормамі. Таксама экспертыза выявіла неадпаведнасць інфармацыі што да ўказання харчовай вартасці. Фактычная масавая доля бялку аказалася на 22% меней, чым заяўлена ў маркіроўцы».

Што называецца, каму хочаце — таму і верце...



# «Здабытак народа» і «пустыя калодзежы»

Ігар ЛАБАНАЎ

**Анамальна цёплая зіма паспрыяла рыбакам. Рыбы ў беларускіх рэчках ды азёрах стане болей. Бо ўзімку яе не лавілі падчас падлёдных рыбалак (так, аматарам гэтага віду ловаў рыбы не пашанцавала, але іх меншасць). І, дарэчы, сёлета квота на платнае аматарскае рыбалоўства, якую вызначае Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, істотна павялічылася — з 7200 да 8200 цэнтнераў.**

### Аперацыя «Сетка»

Што праўда, ёсць адна небяспека ў сувязі з пацяпленнем клімату. Некаторыя рыбы могуць пайсці на нераст хутчэй, чым звычайна, і калі раптам настануць халады, то ікра папросту загіне. Дарэчы, у гэтым годзе забарона на ловы рыбы ўведзена таксама раней па часе, чым звычайна. У розных рэгіёнах яна свая па тэрмінах. На Брэстчыне і Гомельшчыне забарона дзейнічае з 12 сакавіка і працягнецца па 18 траўня, у Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай абласцях — з 22 сакавіка па 30 траўня, на больш халоднай Віцебшчыне яна настане з 31 сакавіка і скончыцца 8 чэрвеня.

Між тым, забарона на аматарскае рыбалоўства ў гэтыя тэрміны не суцэльная. Хутчэй, гэта вельмі істотнае абмежаванне. Рыбачыць можна толькі адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, двайным ці трайным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, са штучных збудаванняў. Выкарыстоўваць іншыя прылады і спосабы лоўлі забаронена. Наступства — штраф. Прычым падчас нерастравання рыбаў ён павялічваецца ўтрая.

Тэрміны веснавой агульнай забароны перасякаюцца з нераставымі табу на вылоўліванне асобна ўзятых відаў рыбы — шчупака, судака і сома: калі іх зловіш, то трэба абавязкова выпусціць назад у сажалку. Цікава, што падчас нерасту забаронена карыстацца лодкамі — гэта тычыцца ўсіх, а не толькі рыбакоў. Калі плаўсродак патрэбны для нейкіх гаспадарчых спраў, то трэба браць дазвол у выканкаме.

Што да адказнасці, то яна можа быць як адміністрацыйная, так і крымінальная, калі ўчыненая шкода сягае за 100 базавых велічынь (нагадаем, што адна «базавая» цяпер роўная 27 рублям). Паводле артыкула 15.35 КаАП, здабыча рыбы або іншых водных жывёл без адпаведнага дазволу або ў забароненых тэрміны, або ў забароненых месцах, або забароненымі прыладамі, або нелегальнымі спосабамі, а таксама — што важна — замах, на такую здабычу, штрафуюцца ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь. Плюс канфіскацыя прыладаў, якія ператвараюцца ў браканьерскія. Знаходжанне з такім прыладамі ў рыбалоўных угоддзях ці на прылеглых да іх тэрыторыях (на адлегласці да кіламетра ад берагавой лініі) пры вышэй згаданых акалічнасцях або з рыбай, вага якой перавышае ўстаноўленыя нормы, або пры адсутнасці дакументаў на законнасць валодання рыбай можа пацягнуць за сабой штрафное спагнанне ад 5 да 30 базавых.

Дадаткова парушальнікам давядзецца кампенсаваць шкоду наваколлю ад незаконнага вынясця з яго рыбы. За адну штуку шчупака і ляшча спаганяюцца 3 базавыя велічыні, судака — 6, а за жэраха — аж 12. Падкрэслім: за адну! І нагадаем: падчас нераставання штраф патройваецца! То-бок, рыбалка можа стаць вельмі дарагой.

Асобны артыкул у Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях датычыць рыбалоўных сетак. Паводле артыкула 15.36 КаАП, незаконныя выраб, набыццё, захоўванне або продаж прыладаў для здабычы рыбы, прынцыпы якіх заснаваны на выкарыстанні электрамагнітнага поля, гуку ды іншых эфектаў, якія аказваюць уздзеянне на жывёлаў, а таксама незаконны збыт і захоўванне сетак і сеткаматэрыялаў караюцца штрафам ад 5 да 50 базавых велічынь. З канфіскацыяй або без. Калі гаворка пра ІП — штраф ад 10 да 200 базавых, калі парушэнне здзейсніць юрыдычная асоба — да 500 базавых. Інспектары аховы жывёльнага і расліннага свету патрулююць, асабліва ў перыяд нераставання, не толькі вадаёмы, але і спрабуюць знайсці і выняць сеткі да таго, як яны будуць усталяваныя браканьерамі ў рэках і азёрах. Усяго штогод у Беларусі знаходзяцца такім чынам некалькі соцень кіламетраў сетак!

**«Ні ў адным з арандаваных азёр няма той колькасці рыбы, якая была да арэнды, што сведчыць пра неэфектыўнасць альбо адсутнасць зарыблення ў неабходных для адраджэння аб'ёмах. Прыродзе вяртаюць "пустыя калодзежы"...»**

### Рыбалка за грошы

Рыбачыць можна як платна, так і бясплатна. На самых рыбных водных угоддзях такое баўленне часу незадарма. Многія вадаёмы аддадзеныя ў арэнду: як малыя, памерам меней за 1 гектар, так і вялікія, прычым самыя вядомыя ў краіне. На платнае аматарскае рыбалоўства арандатарам ці карыстальнікам на бескаштоўнай падставе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання кожны год даводзіць квоты як на прамысловую здабычу рыбы, так і на платную рыбалку для насельніцтва. Сёлета квота па «народнай» пазіцыі вырасла з 7261 цэнтнера да 8236. Напрыклад, на найбуйнейшым палескім возеры Чырвонае квота роўная 798 цэнтнерам, на возеры Нарач рыбакі змогуць вылавіць 411 цэнтнераў рыбы, у возеры Дрывяты — 351, у Асвейскім — 320, у Сяляве — 256, на Лукомльскім возеры — 200.

Больш дакладна новы цэннік стане вядомы ў траўні. Калідор цэн вялікі. Напрыклад, рыбалоўная пуцёўка на суткі на Сяляве летась каштавала 5 рублёў, абанемент на месяц — 35 рублёў. А рыбгас «Волма» прапануе рыбалку за 25 рублёў на суткі. Пры норме вылаву, напрыклад, карпа — 5 кілаграмаў. Вылаўлены кілаграм звыш нормы каштуе 5 рублёў. Ёсць тут і «элітная сажалка» — за 50 рублёў. Сюды ўваходзіць магчымасць злавіць і забраць сабе 10 кілаграмаў таго самага карпа. Стронга мае нарматыў 3,3 кілаграма. На бясплатных вадаёмах можна вылоўліваць толькі да 5 кілаграмаў рыбы. Арандатары вызначаюць нарматывы самі.

Пры арганізацыі платнай рыбалкі інвалідам 1 і 2 групаў, а таксама дзецям да 16 гадоў прадстаўляюцца льготы — дакладней, рыбачыць ім можна бескаштоўна. Жыхары навакольных населеных пунктаў, паводле рашэнняў мясцовых уладаў, таксама маюць льготны доступ да рыбалкі: на згаданым возеры Сялява мясцовыя на выхадных і святочных днях могуць рыбачыць задарма.

Рыбакоў, незадаволеных тым, што азёры перадаюцца арандатарам, якія арганізуюць платную рыбалку, шмат. Наракае народ не толькі на платнасць рыбалкі, але і на тое, што часта арандатары не выконваюць належным чынам узятыя на сябе абавязкі: зарыбляць водныя ўгоддзі, добраўпарадкаваць берагі, ствараць адпачынкавую інфраструктуру (сметніцы, альтанкі, мангалы і гэтак далей). Самым гучным некалькі гадоў таму стаў канфлікт паміж арандатарам Лукомльскага возера (фірмай «ТэраФіш») і жыхарамі Новалукомля ды іншых населеных пунктаў, якія прывыклі бавіць час пры вудзе. Людзі пратэставалі: стваралі петыцыі і мітынгавалі. Дамагліся толькі зніжэння кошту рыбалоўных пуцёвак. Бурчаць і дагэтуль, але пуцёўкі купляюць. Натуральна, браканьерацць. Ахова фірмы—арандатара іх ловіць.

Падобныя скандалы былі, ёсць і будуць. Людзям, асабліва тым, што жывуць каля азёраў і рэчак, цяжка ўспрымаць сітуацыі, калі тое, што доўгі час было даступным і бясплатным для ўсіх і кожнага, цяпер стала чыймсьці, хай і не назаўсёды. Два гады таму рыбакі Віцебшчыны, самай азёрнай вобласці ў Беларусі, нават склалі адкрыты ліст. Эмацыйны і шчымлівы.

Рыбакі заявілі, што гаворка вядзецца не проста пра іх захапленне, а пра жыццёвую філасофію. І «большасць рыбаловаў-аматараў не ставяцца да рыбалкі і вадаёмаў па-спажывецку». Дый аматарская рыбалка нерэнтабельная. Людзі прыгадваюць: «Яшчэ каля 20 гадоў таму на самыя прымітыўныя дзіцячыя снасці лавілася выдатная рыба, ракі. Мы падарожнічалі на роварах з сябрамі па азёрках і рачулках вобласці, і тады нават думкі не было, што камусьці прыйдзе ў галовы ўсё гэта распрадаваць, браць за гэта плату, знішчаць рыбу».

«Гаворка ідзе не пра развядзенне рыбы, калі бізнесовец купляе штучную сажалку або цэлую рыбаводчую гаспадарку, або ставіць пантоны, сочыць за імі, зарыбляе, корміць, вырошчвае таварную рыбу і прадае — тут усё лагічна і зразумела. Гаворка ідзе пра эксплуатацыю прыродных вадаёмаў, якія стварыла сама прырода і якія, па сутнасці, з'яўляюцца здабыткам усяго народа», — даводзілі рыбакі.

Яны абураліся, што ў рэчаіснасці частка фактаў зарыблення — блеф, частка не мае выніку (рыба гіне альбо вылоўліваецца): «Ні ў адным з арандаваных азёр няма той колькасці рыбы, якая была да арэнды, што сведчыць пра неэфектыўнасць альбо адсутнасць зарыблення ў неабходных для адраджэння аб'ёмах». Прыродзе вяртаюць, маўляў, «пустыя калодзежы», а «добрасумленныя выпадкі выканання арандатарамі ўсіх умоваў — адзінкавыя».

А што думаеце пра здачу азёраў у арэнду і платную рыбалку вы?

# Вірус і прайдзісветы

Алег НОВІКАЎ

**Прайдзісветы і аферысты ва ўсім свеце намагаюцца падмануць даверлівых грамадзянаў за кошт эпідэміі.**

Калісьці Астап Бендэр сцвярджаў, што ведае багата спосабаў адносна законнага адабрання грошай. Цяпер вялікі камбінатар дакладна мог бы папоўніць сваю калекцыю за кошт тэмы каронавіруса. У свеце паўстаў сапраўдны «лахатрон», арганізатары якога спрытна ашукваюць тых, хто баіцца заразы.

Натуральна, самы папулярны сродак — продаж цудадзейных лекаў. Прыём, натуральна, не новы. Можна ўзгадаць, якім шалёным попытам карысталіся ў часы чумы ў Еўропе святыя рэліквіі, якім прыпісвалі цудадзейны тэрапеўтычны эфект. Часы ідуць, а людзі не мяняюцца. Эрзацам мошчаў святых у часы эпідэміі каронавіруса сталі адпаведныя абярэгі. Іх, напрыклад, прадаюць у расійскім Санкт-Пецярбургу. А ў Сібіры можна набыць «загавораны часнык». Нарэшце, у Смаленску папулярныя антывірусныя амулеты карэльскіх шаманаў.

Больш адукаванай публіцы прадаюць старыя медыцынскія прэпараты, якія, як раптам высветлілася, «дапамагаюць» супраць вірусу. Сярод іх інтэрферон, арбідол, інгаварын і гэтак далей.

Не прайшлі прайдзісветы міма масак, дэфіцыт якіх выклікаў сапраўдны ажыятаж. Нейкі прадавец на Amazon умудрыўся ўзняць цану на тыя павязкі ў 528 разоў! Зрэшты, магчыма, ён хоць нешта прадаваў. Вельмі часта інтэрнэт-аферысты бяруць за маскі грошы, аднак не абцяжарваюць сябе адпраўкай тавару. Пакуль найбольш на гэтай глебе пацярпеў прадпрымальнік з Малайзіі, якому прапанавалі партыю танных масак у Facebook. Той пагадзіўся на здзелку, каб у выніку нічога не атрымаць, і да таго ж страціць каля 266 тысяч рупій (прыкладна 63 тысячы долараў).

Паралельна з маскамі прапануюцца іншыя «перадавыя» сродкі індывідуальнай абароны. Напрыклад, супрацьгазы ад каронавіруса або нават спецыяльныя біялагічныя касцюмы. Для тых, хто хоча перастрахавацца ад хваробы на сто працэнтаў, прапануюць незвычайныя маскі, напрыклад «вугальную маску» або «маску з шасцю слаямі».

Асобная катэгорыя ашуканцаў робіць грошы на тэме дэзінфекцыі. З'явіліся фірмы, якія прапануюць дэзінфекаваць памяшканні офісаў або кватэраў. У Літве злачынцы пайшлі яшчэ далей. Як піша мясцовая прэса, ужо быў выпадак, калі злодзеі пад выглядам камунальных рабочых, якія, маўляў, дэзінфекуюць жылы фонд, спрабавалі трапіць у кватэры.

Да лайт-версіі махлярства накont «дэзінфекцыі» можна аднесці нядобрасумленную рэкламу. Так, у Калузе адна з кампаній, што займаецца правозкамі, сцвярджае, што а прызначэнне плацяжу не пазначаць.

Цікавы бізнес прыдумалі ашуканцы ў Кіеве на хвалі плётак пра тое, што пасылкі з Кітая могуць быць небяспечнымі. Яны прапануюць забіраць іх з пошты за адпаведную суму. «Рызыкну сваім здароўем, вядома, за асобную плату, забяру з пошты вашу пасылку з таварам з Кітая», — піша на мясцовым інтэрнэт-форуме аўтар Глеб. За паслугі ён просіць 200 грыўняў.

На Захадзе, між тым, назіраецца феномен так званых фішынгавых лістоў — прыём, калі ашуканцы, якія выдаюць сябе за вартыя даверу крыніцы, крадуць чужыя даныя. Схема ў двух словах выглядае так: вам на пошту прыходзіць ліст ад спецыяліста-вірусолага з прапановай даведацца інфармацыю пра захады па абароне ад эпідэміі. Інфармацыя, якая «можа выратаваць вашае жыццё», знаходзіцца ва ўкладзеным файле. Спасылка, па якой прапануецца перайсці, змяшчае праграму, што дазваляе даведацца нумар і пароль вашай банкаўскай карткі. Брытанскі Telegraph сцвярджае: толькі ў лютым мясцовым аферыстам атрымалася такім

Фота www.neveev.ru

**Маскоўская вядзьмарка Арына Ласка гатовая за 10 тысяч расійскіх рублёў даць кожнаму адказ на пытанне, ці абыдзе яго каронавірус. Хто б сумняваўся, што грошы Арына просіць пераводзіць да кансультацыі, а прызначэнне плацяжу не пазначаць**

яе рухомы састаў апрацаваны антывіруснымі сродкамі. На адным з украінскіх сайтаў можна знайсці аб'яву пра паслугі брыгады грузчыкаў, якія прышчэпленыя ад каронавіруса. У Маскве нехта прадае ў інтэрнэце смартфон, адной з якасцяў якога з'яўляецца «адсутнасць на апараце каронавіруса». У прыватнай абвестцы горада Прыпяць (Украіна) чытачам прапануецца ўзяць сабе дахаты ката, які «мае ўсе прышчэпкі, у тым ліку прышчэпку ад каронавіруса».

А вось у Аўстраліі паліцыя заклікала быць асцярожнымі накont абвестак ад прыватных кампаній, якія прапануюць хуткія тэсты на COVID-19. Паліцыя нагадвае, што толькі бальніцы маюць права праводзіць тэсты на вірус. Цікава, колькі бяруць аўстралійскія астапы бендэры за такія тэсты? Напрыклад, маскоўская вядзьмарка Арына Ласка гатовая за 10 тысяч расійскіх рублёў даць кожнаму адказ на пытанне, ці абыдзе яго каронавірус. Хто б сумняваўся, што грошы Арына просіць пераводзіць да кансультацыі, чынам скрасці ў звычайных людзей каля 400 тысяч фунтаў.

У інтэрнэце таксама з'явілася і адпаведная духу часу мадэль «лістоў шчасця», аўтары якіх, як правіла, просяць у атрымальніка ліста дапамогі ў шматмільённых грашовых аперацыях, абяцаючы велізарны гешэфт. У новай варыяцыі нейкая не надта вядомая кампанія піша, што распрацоўвае лекі або вакцыну ад каронавіруса, і што, калі гэта адбудзецца, яе акцыі рэзка вырастуць у цане (для пераканаўчасці прыкладаюцца фальшывыя «справаздачы» аб распрацоўках і «прагнозы» пра рост акцый). Таму прапануецца тэрмінова ўкласці грошы ў праект, каб хутка стаць новым Ротшыльдам.

Застаецца дадаць, што амаль усе апісаныя прыёмы «законнага адабрання грошай» на тэме віруса паўсталі літаральна за апошні месяц. З улікам таго, што эпідэмія, як чакаецца, працягнецца як мінімум да ліпеня, «разводкі» не толькі не спыняцца, але і абавязкова набудуць новыя формы. Не трапляйце на вуду прайдзісветаў!

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### КАЗАХСТАН. Ёсць вакцына ад каронавіруса?

Медыкі ўсяго свету шукаюць сродак ад віруса, які ахапіў планету. Дзіўна, што іх не цікавяць навіны з Ашхабада, дзе 13 сакавіка прэзідэнт Гурбангулы Бердымухамедаў зрабіў сенсацыйную заяву. На пасяджэнні ўраду па праблеме эпідэміі гарант абвясціў, што ведае сродак ад каронавіруса. На яго думку, «гармала» — расліна, якая яшчэ вядомая як магільнік, з'яўляецца эфектыўным сродкам ад «шматлікіх хваробаў». «На працягу тысячагоддзяў сфарміраваліся і даказалі сваю эфектыўнасць нацыянальныя метады супрацьстаяння згубным звычкам і прафілактыцы розных інфекцыйных захворванняў», — сказаў Бердымухамедаў. Услед за рэкамендацыяй прэзідэнта ў дзяржустановах і школах Туркменістана пачалася кампанія па масавым абкурванні памяшканняў магільнікам. Прычым там-сям нават перастараліся і абкурваюць памяшканні двойчы на дзень. Пакуль эфект ад мерапрыемства незразумелы. Між тым, як паведамляюць некаторыя СМІ, туркменскі ўрад разглядае варыянт закрыцця камунікацый паміж абласцямі.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЗША. Пентагон зачыняць?

У амерыканскіх дэбатах усё гучней чуваць галасы аматараў закрыць, а хутчэй перафарматаваць дзейнасць Мінабароны ЗША. Прычым, пачаць прапануецца з таго, каб зачыніць славуты комплекс ведамства, які часта называюць Пентагон праз яго архітэктурную форму. Дарэчы, яго пабудавалі падчас Другой сусветнай вайны пад вялікі архіў. Аднак у выніку з-за пачатку халоднай вайны сюды перабраліся вайскоўцы. І, калі падчас супрацьстаяння з Масквой і Пекінам існаванне такога вялікага дэпартамента мела сэнс, то цяпер шмат каму наяўнасць гэтай структуры падаецца анахранізмам. Даўно кажуць, што для сучасных войнаў не трэба такой вялікай інфраструктуры, паколькі тэма знешняй экспансіі і кантролю тэрыторый не актуальная. Вялікія дзяржавы навязваюць дыктат за кошт тэхналогій і эканомікі. Нарэшце, бюджэт Пентагона, які апошнім часам узняўся да часоў Другой сусветнай вайны, даўно выклікаў незадаволенасць грамадзян. Вайсковае лобі неяк стрымлівала ўдар, пакуль у краіне не пачалася эпідэмія каронавіруса. Аказалася, што танкі і авіяносцы не могуць спыніць новай пагрозы. У сувязі з гэтым заклікаюць закрыць Пентагон і стварыць на яго базе тры новыя ведамствы, якія будуць займацца, адпаведна, кліматам, кіберпагрозамі і біялогіяй. Увогуле, такія заклікі нагадваюць фантазіі, аднак іх публікуюць вельмі салідныя медыя.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ГАЛІВУД. Апошняя зорка нямога кіно

На мінулым тыдні ва ўзросце 101 год пайшла з жыцця Дзіяна Кары. Падзея заслугоўвае ўвагі, паколькі Дзіяна, што нарадзілася ў 1918-м, была апошняй жывой зоркай нямога кіно. Пад мянушкай Бэбі Пігі яна дэбютавала ў 1921 годзе ў Галівудзе яшчэ маленькім дзіцём і хутка стала вельмі папулярнай. У 1923-м кінакампанія Universal падпісала з дзяўчынкай мільённы кантракт. Пік славы Дзіяны прыйшоўся на 1924 год, калі яна атрымала ад фанатаў 1,7 мільёна лістоў, а пазней нават была запрошаная на партыйны канвент дэмакратаў, які абраў кандыдатам на пасаду прэзідэнта Франкліна Рузвельта. З-за сваёй вялікай папулярнасці яна нават не паспела скончыць школу, і дарэмна. У 1928 годзе яе бацька пасварыўся з Галівудам, і кантракт з Дзіянай быў разарваны. Той жа бацька прымусіў дзяўчынку працаваць на акцёрскай сцэне, дзе яна не мела поспеху. У выніку Дзіяна захварэла і была вымушаная пайсці з шоу-бізнеса. Ёй давялося ісці ў школу і, фактычна, пачаць жыццё ад самага пачатку. Цікавасць да яе з'явілася толькі ў наш час. Магчыма, гэта часткова кампенсавала былой актрысе няўдалую кар'еру.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Кампартыю забароняць праз каранцін?

Незвычайныя палітычныя наступствы рэжыму каранціну ў Расіі. Усё пачалося з таго, што шматлікія забароны і абмежаванні на публічныя сходы не перашкодзілі камуністам правесці ў суботу міжнародны эканамічны форум у Арле. Партыя на чале з Генадзем Зюганавым сабрала каля 400 чалавек з розных рэгіёнаў РФ і з-за мяжы, у тым ліку з КНР, Грузіі, Украіны, Беларусі і іншых краін. Форум камуністаў быў раскрытыкаваны ліберал-дэмакратамі Уладзіміра Жырыноўскага. Жырыноўцы пабачылі ў мерапрыемстве рызыкі распаўсюджвання каронавіруса. Паводле заявы прэс-службы, Кампартыя «наплявала на правілы каранціну» і фактычна зладзіла «дыверсію, якая будзе спрыяць распаўсюджванню заразы». Ліберал-дэмакраты дайшлі да таго, што анансавалі намер паставіць перад Мінюстам пытанне пра забарону дзейнасці КПРФ. У сваю чаргу, правадыры камуністаў заяўляюць, што правялі бяспечнае мерапрыемства. Акрамя таго, яны спасылаюцца на высокую самадысцыпліну, характэрную, маўляў, камуністам. «Калі нехта адчуваў сябе дрэнна, ён не прыязджаў на форум», — сцвярджаюць у КПРФ.

**Паводле расійскай прэсы**

# «Мацею Бурачку ад мужыкоў-беларусаў»

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**У Вільні ўрачыста перапахавалі паўстанцаў 1863–1864 гадоў, знойдзеных на гары Гедыміна. Сярод іх — нацыянальны герой Беларусі, які загінуў на шыбеніцы «дзеля шчасця і дабра» роднага народа — Кастусь Каліноўскі. Распачатую ім справу працягнуў іншы ўдзельнік паўстання, які таксама спазнаў мужыцкую «праўду» і ўвасобіў яе ў сваёй творчасці, — Францішак Багушэвіч. Сёлета, 21 сакавіка, спаўняецца 180 гадоў з дня яго нараджэння.**

Менавіта Францішак Багушэвіч падхапіў кліч, кінуты паўстанцамі на чале з Каліноўскім, і абвясціў яго на ўвесь свет, зрабіўшыся духам, які нарадзіў рух Беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя:

*Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі,*
*Мучылі за праўду, сілай паканалі;*
*Пашлі ж цяпер Духа,*
*да пашлі без цела,*
*Каб уся зямелька адну праўду мела!*

## «Каб я панам ніколі не быў»

Францішак Бенядзікт нарадзіўся 9 (21) сакавіка 1840 года ў сям'і Казіміра і Канстанцыі Багушэвічаў. Ён з'явіўся на свет у Свіранах (цяпер Віленскі раён Літвы) у маёнтку сям'і маці — Канстанцыі з Галаўнёў, пляменніцы кіраўніка былой Літоўскай уніяцкай епархіі Андрыяна Галаўні.

Дзяцінства будучага беларускага песняра прайшло ў Кушлянах, дзе Багушэвічам належалі 34 сялянскія душы. Радавы маёнтак знаходзіўся побач з вядомым яшчэ з 1407 года мястэчкам Жупраны, куды сям'я наведвалася на касцельную службу, і пра якія Францішак пазней пісаў: «Калісьці "Пане Каханку", прыехаўшы на паляванне ў сваю Жупранскую (напэўна, яна называлася Зубранскай) пушчу, якая належыць цяпер гр. Чапскім, быў так прыемна здзіўлены глухімі і непраходнымі лясамі і багаццем дзічыны, што нібыта ўсклікнуў: "Не ведаў я, што значыць Жупранская пушча!"» У часы маленства Багушэвіча ад былой пушчы амаль нічога не засталося. На яе месцы паўстала поле з невялічкімі шнурамі сялянскіх надзелаў.

Ваколіцы Жупранаў, як і само мястэчка, дужа пацярпелі ў час адступлення французскай арміі з-пад Масквы ў 1812 годзе, ператварыўшыся ў папялішча, аб чым узгадваў у «Гісторыі Напалеона» граф Філіп Поль дэ Сегур (1824): «Бляск гэтага полымя прыцягваў пакутнікаў, якіх мароз і боль давялі да шаленства. Яны і ўцякалі, як звар'яцелыя, з зубным скрыгатам і вар'яцкім смехам, кідаліся ў агонь, у якім гінулі ў страшэнных канвульсіях. Іх галодныя таварышы глядзелі на гэта без страху, былі нават такія, якія выцягвалі абгарэлыя целы… і неслі да вуснаў гэтую смуродную ежу…»






З дзяцінства Багушэвіч сутыкаўся з нядоляй простага народа, павага да якога знайшла адлюстраванне ў яго вершах:

*Маліся ж, бабулька, да Бога,*
*Каб я панам ніколі не быў:*
*Не жадаў бы ніколі чужога,*
*Сваё дзела як трэба рабіў.*

## Навучанне

У 1852 годзе Францішак разам з братам Валяр'янам паступіў у Віленскую гімназію. Ён вучыўся ў адным класе з будучымі вядомымі ўдзельнікамі паўстання 1863–1864 гадоў Цітусам Далеўскім (паплечнікам Кастуся Каліноўскага) і Юльянам Чарноўскім (камісарам Ашмянскага павета). У старэйшым класе навучаліся Канстанцін Далеўскі (будучы герой Парыжскай камуны), Зыгмунт Мінейка (ваенны кіраўнік Ашмянскага павета), Вінцэнт Віткоўскі (у 1860 годзе быў здадзены ў арэнбургскія лінейныя батальёны). Яшчэ на клас старэйшы быў Ігнат Здановіч — таксама адзін будучы паплечнік Каліноўскага.

У 1855 годзе пры гімназіі з'явіўся Музей старажытнасцяў, заснаваны вядомым калекцыянерам і археолагам Яўстахам Тышкевічам. Францішак перадаў музею шэраг уласных знаходак, сярод якіх тры старажытныя манеты, крыж са славянскім надпісам і гадальнік.

У першыя гады навучання Багушэвіч не вызначаўся асаблівымі поспехамі і два гады (1857–1858 і 1858–1859) нават вымушаны быў правесці ў пятым класе. Найлепш яму даваліся руская і польская мовы, а найгорш — латынь, па якой ён меў «адзінку». Аднак у апошнім, сёмым класе, узяўся за розум, асабліва за матэматыку, і ў чэрвені 1861 года скончыў навучанне ў гімназіі ў ліку чатырох лепшых выпускнікоў з правам на чын XIV класа.

15 верасня 1861 года Францішак быў залічаны на першы курс Пецярбургскага ўніверсітэта па матэматычным разрадзе. Гэта былі цяжкія месяцы ў сталіцы — амаль без грошай у кішэні. У самы горшы момант з Багушэвічам здарыўся цуд, пра які ён успамінаў праз чвэрць стагоддзя: ён ішоў па Васільеўскім востраве і знайшоў на дарозе 2 рублі, «а роўна гэтулькі і было патрэбна для майго шчасця!»

Вучобу ва ўніверсітэце Францішак так і не распачаў: 24 кастрычніка ён удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях супраць новых заліковых кніжак (матрыкул), а 14 лістапада напісаў на імя рэктара просьбу аб звальненні з універсітэта — «з-за цяжкай хваробы і неспрыяльнага клімату». Ён выехаў у родныя Кушляны ў той час. Універсітэт жа 24 снежня быў часова закрыты.

Па вяртанні на радзіму Францішак уладкаваўся на працу ў школку, створаную уладальнікам маёнтка Доцішкі Лідскага павета Аляксандрам Звяровічам (Жвяровічам), дзе навучаў сялянскіх дзяцей. Тут ён пасябраваў з Янам Карловічам з суседняга маёнтка Подзітва. Гэта быў высокаадукаваны малады чалавек, які скончыў Віленскую гімназію, Маскоўскі ўніверсітэт і вучыўся ў Каледж дэ Франс у Парыжы, універсітэце ў Гейдэльбергу і кансерваторыі ў Брусэлі. Сяброўства з Карловічам Багушэвіч пранёс праз усё жыццё.

Акрамя працы ў школцы Францішак вандраваў па вёсках, вывучаў жыццё тутэйшых жыхароў. Ад Казіміра Умястоўскага з Замаслаўя Ашмянскага павета (сёння Іўеўскі раён) ён даведаўся пра сялянскія хваляванні, якія адбываліся тут вясной-летам 1861 года. Тыя падзеі сталі сюжэтам для аднаго з яго мацнейшых вершаў — «Хрэсьбіны Мацюка», у якім ён распавядае, як «О так-то хрысцілі мяне казакі / З тутэйшага ды ў палякі!»

## 20 гадоў на чужыне

Напрыканцы студзеня 1863 года пачалося паўстанне, да якога далучыліся браты Францішак і Валяр'ян Багушэвічы. Валяр'ян яшчэ напярэдадні выступлення належаў да палітычнага гуртка «Пянткові чаў», а вясной узначаліў адзін з невялікіх атрадаў. Францішак жа далучыўся да атрада Людвіка Нарбута. Перад тым, згодна легендзе, у цэнтры Жупранаў, узняўшыся на камяні, сказаў прамову пра патрэбу барацьбы супраць прыгнятальнікаў.

Пасля разбіцця атрада Нарбута Багушэвіч дзейнічаў у атрадзе Аляксандра Парадоўскага-Астрогі. Але 12 чэрвеня быў цяжка паранены ў нагу ў Аўгустоўскіх лясах і ратаваўся ў Крашэўскіх, пасля чаго вымушаны быў выехаць ва Украіну — да дзядзькі Аляксандра Галаўні ў Нежын. Грошы на дарогу пазычыў Ян Карловіч. А сястра Ганна, брат Апалінар і бацькі з лістапада 1863-га да снежня 1864-га ўтрымліваліся за кратамі па абвінавачванні ва ўдзеле ў паўстанні.

7 траўня 1865 года Францішак падаў заяву на паступленне ў Нежынскі юрыдычны ліцэй. Каб мець сродкі на «стол і кватэру», ён падпрацоўваў рэпетытарам, зарабляючы па 8 рублёў у месяц. Навучанне скончыў 26 ліпеня 1868 года, пасля чаго адправіўся памочнікам справавода ў Чарнігаў. Затым была праца следчым у тым жа Чарнігаве, горадзе Гразявец Валагодскай губерні, Кралевіцкім павеце і ў горадзе Канатоп. За 20 гадоў удалечыні ад Бацькаўшчыны ён даслужыўся да старшага следчага, атрымаў нават ордэн святога Станіслава 3-й ступені і чын калежскага саветніка. Але начальства, нягледзячы на бездакорную працу, па-сапраўднаму ніколі не мілавала яго. Ён жа пра той час узгадваў, што «прамываў цукар у вадзе». Аднак менавіта на чужыне Багушэвіч пачаў пісаць свае першыя беларускамоўныя вершы.

У верасні 1874 года Францішак пабраўся шлюбам з мінчанкай Габрыэлай са Шклёнікаў, з якой меў дзяцей Тамаша Вільгельма (1876) і Канстанцыю-Марыю (1881). Знаходзячыся ва Украіне, Багушэвіч увесь час марыў вярнуцца на Радзіму. І ў 1883 годзе для таго склаліся спрыяльныя ўмовы: у траўні прайшла каранацыя новага імператара Аляксандра III, які абвясціў амністыю ўдзельнікам паўстання 1863–1864 гадоў. А ў лістападзе 1883 года на тэрыторыю Беларусі і Літвы была распаўсюджана судовая рэформа, у межах якой ствараліся галосныя суды, што давала магчымасць працаўладкавання ў якасці «прысяжнага паверанага» (адваката). Таму 2 лютага 1884 года Францішак падаў прашэнне аб адстаўцы і ўжо 25 сакавіка на Звеставанне, «як буслы», Багушэвічы былі ў Вільні.

## Вяртанне

Яны пасяліліся на вуліцы Коннай (сёння — Арклю) у доме лекара Казлоўскага, непадалёк ад чыгуначнага вакзала. Францішак працаваў «прысяжным абаронцам», але ад гэтага занятку меў больш клопату, чым заробку. У студзені 1885 года ён пісаў Яну Карловічу: «… кліентаў маю палову Вільні і ваколіц, але яны зняверыліся, і да мяне не прыходзяць, бо ведаюць, што весці іх справы задарма не думаю. Хаджу сабе і думаю, а што думаю, сам не ведаю, дык і апісаць не магу, і на гэтым канец».

Цяжкія думкі прыгняталі Багушэвіча, пра што ён паведамляў 5 (17) лютага: «Пакуль я быў далёка ад радзімы і ад сваіх, жадаў, нібы таго біблейскага збавення, знаходжання тут, а цяпер… не бачу сваіх і шукаю іх ва ўспамінах. Што гэта? Дзе тое,

чаго я шукаў, і дзе тыя берагі, за якія не будзе сягаць туга? Ад чаго ж той незразумелы настрой душы, тое неспатольнае жаданне чагосьці?» Багушэвіч называе сябе «чалавекам, які нарадзіўся не ў сваю эпоху альбо які нарадзіўся так, што яго "эпоха" ніколі не наступіць, які з гэтай прычыны змушаны ўсё жыццё быць у своеасаблівай барацьбе з той эпохай і з усім тым, што ёсць у ёй...»

Каб падтрымаць сябру, Ян Карловіч падбіваў Францішка зрабіцца карэспандэнтам польскага часопіса «Край», што выходзіў у Пецярбургу. Але Багушэвіч быў вельмі няўпэўнены ў сабе і адзначыў, што «не раз рабіў спроб, ды рваў іх... Прыкра было б мне прачытаць у адказ: "ні змест, ні стыль непрыдатныя" ці нешта падобнае». Але ўсё ж выканаў параду: 4 красавіка 1885 год быў надрукаваны яго першы матэрыял, прысвечаны зніжэнню коштаў збожжа як наступства пачатага эканамічнага крызісу. Усяго за 7 гадоў у «Краі» пабачылі свет больш за паўсотні артыкулаў і нататак Багушэвіча.



## «Дудка беларуская»

Францішак пачаў дасылаць Карловічу і вершы па-беларуску, сярод якіх адзін з першых у 1887 годзе — гэта «Думка», які пачынаецца радком «Часоб мне маркотна, на плач забірае...» і заканчваецца спадзевам на лепшае:

*Ну ды рана-позна,*
*тыкі мне здаецца,*
*Кожны занудзіцца,*
*да дому прыб'ецца...*
*Паглядзець, як людзі ў бядзе*
*сабе радзяць,*
*Абсядуцца ў дому і лад*
*заправадзяць.*

Праз Яна Карловіча ў студзені 1887 года Францішак пазнаёміўся ў Гродне з вядомай пісьменніцай Элізай Ажэшкай: «Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават даў мне іх копію з асобным вершам, які напісаны па-беларуску. Ці ж няпраўда, што гэта цудоўныя рэчы, яны маюць нейкае асаблівае харастсва, і я вельмі зацікавілася, ці зразумеюць іх таксама нашыя хлопы і ці змогуць яны іх упадабаць. На будучае лета паспрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым».

Багушэвіч наведваў Ажэшку і ў верасні, і ў снежні 1887-га, чытаў пісьменніцы свае творы, у тым ліку адну са сваіх беларускіх казак. Пісьменніца 22 лютага 1888 года даслала ліст Карловічу, у якім зрабіла важную для далейшай творчасці Багушэвіча выснову: «Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на маю думку, выдатныя. Трэба з усёй сілы заахвочваць яго да працы ў гэтым кірунку».

Гэта займела поспех. У 1891 годзе ў кракаўскай друкарні Уладзіслава Анчыца пабачыў свет зборнік «Дудка беларуская», падпісаны псеўданімам «Мацей Бурачок». Так сябе назваў Багушэвіч, які ў лісце сябру Яну Карловічу наракаў на вялікую колькасць памылак у выданні. Але тое было ўжо дробяззю. Дудка зайграла «ад краю да краю», стаўшы пуцяводнай зоркай беларускага Адраджэння.

Але важней за вершы стала прадмова, у якой аўтар імкнецца абгрунтаваць права на развіццё роднай мовы, як пра тое напісалі ў рэцэнзіі ў польскім часопісе «Агульны агляд» у траўні 1892 года. Францішак Багушэвіч разбураў стэрэатып пра «мужыцкую» мову, якая насамрэч называецца «беларускай», ставіў яе ў адзін шэраг з англійскай і французскай, адзначаючы: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная». Менавіта мову Багушэвіч кладзе ў аснову вылучэння беларусаў як самастойнага народа («Нас жа не жменька, а з шэсць мільёнаў») і акрэслівае межы існавання Беларусі: *«Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»*

У той жа час Багушэвіч спрабаваў адказаць, чаму ж радзіма называецца менавіта «Беларусь»: *«Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая; нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася».* Гэтыя словы да сёння — квінтэсэнцыя нацыянальнай ідэі. У той жа час Багушэвіч выступаў і як прарок уласнага народа, прадбачыўшы самую згубную для яго небяспеку: *«Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, каторому мову займе, а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы».*

## Багушэвіч і Ажэшка

6 лютага 1892 года Багушэвіч наведаўся ў Гродна да Элізы Ажэшкі, у якой сабралася шмат гасцей, каб павіншаваць гаспадыню з 50-годдзем. Ён выступіў з прамовай у гонар пісьменніцы, сведкам чаго была жыхарка Варшавы Стэфанія Сэмпалоўская: «Сярод тых гасцей, з якімі я пазнаёмілася ўжо ў Гродне, зацікавіў мяне адзін чалавек, які вылучаўся вопраткай — выглядаў ён крыху па-сялянску (у высокіх ботах і старасвецкай даматканай світцы). Гэта быў Францішак Багушэвіч... беларускі паэт. Відаць, пан Багушэвіч адчуў, што нас лучыць і зблізкае агульнасць у вопратцы, таму што сеў пры стале каля мяне, і мы пачалі доўгую гаворку, якая працягвалася некалькі гадзін... Было гэта першае ў маім жыцці сутыкненне з беларускай культурай і беларускім народам. Апавяданне пана Багушэвіча — гэта цудоўная, доўгая, простая па літаратурнай форме прамова. Аўтар спачатку расказваў аб беларускай зямлі — убогай, шэрай, што нічым не здзіўляе. Яна не мае ніякіх багаццяў, не дарасла да дзяржаўнасці ні праз зямныя багацці, ні праз узброеную сілу. На ёй няма ні ззяючых золатам гарадоў, ні замкаў, што свецяцца на сонцы белымі мурамі.

Беларусь, — казаў пан Багушэвіч, — гэта нізкія хаты з саламянымі стрэхамі. Але ў гэтых хатах б'юцца гарачыя сэрцы, нараджаюцца глыбокія чалавечыя пачуцці.

У гэты ўбогі край з больш шчаслівай і багатай сваёй айчыны прыйшла пані Ажэшка. Прыйшла і зычліва глянула, зычліва, па-братэрску паціснула рукі і злучыла іх з сваімі вузлом узаемных пачуццяў і ўзаемадапамогі.

І яна, полька, глядзіць сёння на Беларусь у крытай саломаю хаце не як на чужога ці ворага, але як на чалавека, з якім на адной зямлі і пры ўзаемадапамозе лягчэй жыць.

Якімі ж беззмястоўнымі здаліся мне потым выступленні паноў, апранутых у фракі».

## «Смык беларускі» і сялянскі адвакат

У 1892 годзе Багушэвіч выдаў невялікую кніжку з апавяданнем «Тралялёначка». Затым яшчэ адну, без назвы і подпісу, якая пачыналася словамі «Гаспадары, для Вас пішым гэта апавяданне... вы ж і павінны ведаць, сколькі церпяць вашые браты пад царскім ярмом. Апавядання гэтыя смутныя і страшныя, а нядоля нашая вялікая!..» У жніўні 1893-га Багушэвіч выправіўся за мяжу, відавочна, па патрэбе выдання новага зборніка вершаў, які пабачыў свет у 1894-м у Познані. Гэта быў «Смык беларускі» за подпісам «Сымон Рэўка з-пад Барысава».

Калі ў творчым плане ў Багушэвіча меліся вялікія поспехі, то ў працы з кожным годам станавілася ўсё цяжэй. Ён успрымаўся як «сялянскі адвакат», якога калегі па цэху за спінай называлі «хлопам», не паважаючы яго за тое, што ён не раз дапамагаў людзям судзіцца з іншымі адвакатамі, якіх тыя абдурвалі. Да яго накіроўваліся пакрыўджаныя з усяго краю, ведаючы, што Багушэвіч выслухоўвае людзей на «беларускай гаворцы». Багушэвіч дапамагаў сялянам у Ашмянскім павеце змагацца ў 1886 годзе з графам Адамам Гутэн-Чапскім, які незаконна завалодаў лесам і выганам сялян вёсак Навасёлкі і Гудзяняты. У снежні 1888 года выступіў на баку сялянаў вёскі Смейлы Віленскага павета Маліноўскім і Валенціновічам, якіх абвінавацілі ў хваляваннях. Здараліся выпадкі, калі ён вёў справы і задарма, як у 1892 годзе дапамагаў селяніну Крэўскай воласці Міхалу Вольскаму.

**Калі ў творчым плане ў Багушэвіча меліся вялікія поспехі, то ў працы станавілася ўсё цяжэй. Ён успрымаўся як «сялянскі адвакат», і не раз дапамагаў людзям судзіцца з іншымі адвакатамі, якіх тыя абдурвалі**

З восені 1894 годзе Францішак Багушэвіч пачаў моцна хварэць, спачатку на сэрца, затым на ныркі, і не меў магчымасці ні працаваць дастаткова для ўтрымання сям'і, ні пісаць. І тады, калі, здавалася, у яго жыцці наступіў найцяжэйшы час, як і ў выпадку непачатага пецярбургскага студэнцтва, з ім здарыўся цуд: у 1896 годзе ён атрымаў спадчыну па смерці варшаўскага сваяка Тадэвуша. Францішак здолеў разлічыцца з пазыкамі і пачаў наноў адбудоўваць сядзібу ў Кушлянах. А таксама прафундаваў у Кракаве другое выданне «Дудкі беларускай», у якім галіцыйскія славянафілы ўбачылі пагрозу «нацыянальнага і літаратурнага сепаратызму беларусаў у Расіі».

Нарэшце, 20 траўня 1898 года Багушэвіч напісаў заяву аб вызваленні ад абавязкаў прысяжнага паверанага пры Віленскім акруговым судзе «з прычыны цяжкай хваробы», і разам з сям'ёю перабраўся ў Кушляны. Тут ён аднавіў бацькоўскую сядзібу, высадзіў шматлікія каштаны і нават на шырокім дубовым пні стварыў сонечны гадзіннік, які быў знішчаны ў 1915 годзе, калі хату Багушэвічаў немцы выкарыстоўвалі як вайсковы шпіталь.

Аднак здароўе падвяло яго канчаткова. Не маючы магчымасці выехаць за мяжу, Багушэвіч спрабаваў выдаць напісаныя ім «Беларускія апавяданні Бурачка» і «Скрыпачку беларускую» ў Віленскай губернскай друкарні. Аднак цэнзура ўбачыла ў іх не з'яўленне новай беларускай літаратуры, а, у першую чаргу, намаганні «разбіць і аслабіць літаратурнае і нацыянальнае адзінства, а ў выніку гэтага і палітычную магутнасць рускага народа». Зборнікі так і не былі надрукаваныя, і іх далейшы лёс невядомы.

Францішак Багушэвіч апошні год увесь час ляжаў у ложку і выношваў ідэю стварэння беларускай граматыкі. Зрэдку яго выносілі на веранду, каб ён паназіраў за кушлянскім жыццём. Ён памёр 15 (28) красавіка 1900 года. У гэты ж дзень сын Томаш зрабіў замалёўку бацькі.

Над яго магілай быў усталяваны высокі дубовы крыж з двума вянкамі са словамі: «Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы» і «Мацею Бурачку ад мужыкоў-беларусаў». На крыжы віселі дудка, смык і скрыпка. На ўзгорку, дзе Багушэвічы святкавалі Купалле, на вялізным камяні быў зроблены надпіс: «Памяці Мацея Бурачка». Немцы спрабавалі яго ўзарваць, але толькі трохі пашкодзілі. Падчас выбуху з зямлі выбіліся шматлікія паперы, якія затым валяліся па ўсёй ваколіцы. У 1983 годзе побач былі пасаджаныя 60 маладых дубоў, у гонар пражытых гадоў паэта.

У 1901 годзе ў Жупранскім парафіяльным касцёле з'явілася белая мармуровая дошка (аўтар — Іван Арасімовіч) з Багушэвічавым партрэтам на медзі (аўтар — Ян Ярoцкі). У 1970-я гады партрэт, да якога людзі многія гады ставілі свечкі, знік, і зноў быў адноўлены ў 1990 годзе.

Багушэвіч пакінуў сям'і маёнтак Кушляны, адзення і бялізны коштам у 300 рублёў, ды грашовую прэтэнзію да аднаго з кліентаў за вядзенне справы. Аднак значна больш ён падараваў свайму народу, пра што засведчыла Алаіза Пашкевіч (Цётка): *«Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам... аж покі не папала ў мае рукі "Дудка" Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, то беларус. Прачытаўшы тую "Дудку", я сказаў: "Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсць і слава тваему слову! А ты, "Дудка", грай і мне голас дай"».*

# «Ну, дык грай жа, дудка!»

**Прысвячаецца Дню Волі і 180-годдзю з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, якое адзначаецца 21 сакавіка**




**Па гарызанталі:** 1. Мацей ... Псеўданім Францішка Багушэвіча, класіка беларускай літаратуры, пад якім у Кракаве быў выданы яго зборнік вершаў «Дудка беларуская» з прадмовай: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». 4. «Дваццаць пятага сакавіка — // Годны ... // Беларускай дзяржавы». З верша Рыгора Барадуліна «25 сакавіка». 7. Гатунак цукерак. 10. Рамызнік з франтаватым экіпажам (састарэлае). 11. Вузенькая лінія. 13. «Каб уся... адну праўду мела». З верша Францішка Багушэвіча «Праўда». 14. ... ! Вокліч з пераможнай інтанацыяй. 15. «Не народ для ўрада, а ... для народа». (Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстання 1863–1864 гадоў, актыўным удзельнікам якога быў Францішак Багушэвіч). 18. Ганарылася свіння, што аб панскі ... пачухалася (прыказка). Злабадзённая прыказка! 19. Беларуская багіня вясновa-летняй урадлівасці. 23. Твар (састарэлае). 24. Гідратэхнічнае збудаванне. 27. Горад ва Украіне, дзе пісьменнік вучыўся ў юрыдычным ліцэі. 29. Чужое дабро бярэ за ... (прыказка). 31. «Каб жа ... бог не даў. — // Я б вясёла заспяваў». З верша «Гора». 32. «Дзякуй табе, ..., і за тыя словы, // Што ўспомнілі гукі роднай мовы». З верша Адама Гурыновіча «Дзякуй табе, ..., Бурачок Мацею», якія паэт прысвяціў Францішку Багушэвічу. 33. «Маскалі ж у вёсцы яшчэ не паснулі, // Праляці ж , ... , каб яны не чулі». З верша Францішка Багушэвіча «З кірмашу».

**Па вертыкалі:** 1. «Век у шчасці жыві, беларускі народ!». З верша Уладзіміра Някляева «Жыве ... !». 2. «Штандар наш бел-чырвона-белы, // Пакрый сабой народны ...». З гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (словы Макара Краўцова, музыка Уладзіміра Тэраўскага). 3. Дыван ручной работы. 5. «... Венера». Раманс (словы Максіма Багдановіча, музыка Сымона Рака-Міхайлоўскага). 6. Лоб нізкі, ... склізкі, відаць, што аблізваў панскія міскі (прыказка). 8. «Сядзе матка ў кут на лаве, // Сын хлеб - ... прад ёй паставе, // Ручкі-ножкі пацалуе». З верша Францішка Багушэвіча «Калыханка». 9. «... , які аднойчы адмовіўся ад волі, назаўжды робіцца вязнем». (Васіль Быкаў). 12. Зімабор, ... Народныя назвы сакавіка месяца. 14. Імя селяніна, галоўнага героя паэмы «Кепска будзе». 16. «Ну, дык грай жа, дудка, // Каб жа была ..., // Каб жа вушы драла». З верша Францішка Багушэвіча «Мая дудка». 17. «Лепш ... буйную за волю нам пакласці, // чым гордую душу ў няволі загубіць». З верша Ларысы Геніюш «Кліч Пагоні». 20. Вёска на Смаргоншчыне, былы маёнтак Багушэвічаў; цяпер там дзейнічае дом-музей паэта. 21. «Ідзіце ў будучыню смела! Настаў доўгачаканы час, // Пад сцягам бел-чырвона-белым // Чакае ... нас». З верша Максіма Танка «Ты чуеш, брат?». 24. Тое, што і вянок. 25. «Чалавек адчувае свой ... толькі тады, калі ён вольны». (А. Бергсан). 26. Трапіў цвік пад молат, шыя пад ... (прыказка). 28. Моцна нагрэтае паветра. 30. Лічбавая ацэнка поспехаў у чым-небудзь.

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Мова — гэта мая апора» (НЧ №6 ад 14 лютага):**

**Па гарызанталі:** 3. Гарадок. 8. Азбука. 9. Руанда. 10. «Навошта». 13. Воля. 14. Пчала. 15. Свет. 18. Шале. 19. Рыга. 22. Арол. 23. Чабор. 25. Улоў. 29. Свабода. 31. Дуліна. 32. Трэска. 33. Крыніца.

**Па вертыкалі:** 1. Сакавік. 2. Кут. 3. Ганг. 4. Апора. 5. Край. 6. ААН. 7. Малітва. 11. Словазбор. 12. Евангелле. 16. Дзень. 17. Народ. 20. Грамада. 21. Лаўрэат. 24. Бубен. 26. Ясак. 27. Хата. 28. Міф. 30. ПЭН.

# БагатаДата

**У гэтыя дні нарадзіліся Мацей Бурачок і ўладыка Філарэт. Як завуць іх па-сапраўднаму і якія выбітныя людзі нарадзіліся ў адзін тыдзень з імі — у нашым традыцыйным аглядзе.**

## 21 сакавіка

**Сусветныя дні паэзіі, людзей з сіндромам Дауна, барацьбы за ліквідацыю расавай дыскрымінацыі, а таксама Міжнародны дзень лясоў і дзень лялечніка (або тэатра лялек).**

**1840.** У фальварку Свіраны (цяпер вёска Світонас у Віленскім раёне) нарадзіўся адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры, яе класік Францішак Багушэвіч. Псеўданім — Мацей Бурачок. Зборнікі — «Дудка беларуская» і «Скрыпка беларуская». Пісаў лацінкай, але цяпер яго творы выдаюцца, зразумела, кірыліцай. Пры жыцці ў Расійскай імперыі былі забаронены. Аўтар вядомага выслоўя: «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш сваю мову, так як той чалавек перад сканаsuccessful, катораму мову займае, пасля і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Дык паўторым разам з іншым паэтам Адамам Гурыновічам: «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею, за тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею».

1935. У Маскве нарадзіўся Кірыл Вахрамееў, ён жа ўладыка Філарэт, былы мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, ганаровы патрыяршы экзарх усяе Беларусі. У пачатку 1990-х гадоў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі.

## 22 сакавіка

**Сусветны дзень водных рэсурсаў, Міжнародны дзень таксіста**, а ў Беларусі — **Дзень працаўнікоў бытавога абслугоўвання насельніцтва і камунальнай гаспадаркі** (адзначаецца ў чацвертую нядзелю сакавіка).

**1585.** У мястэчку Біржы (цяпер Літва) нарадзіўся Крыштаф Радзівіл, ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, вялікі гетман літоўскі. Ачольваў у ВКЛ апазіцыю супраць Жыгімонта Вазы. Кальвініст, праціўнік каталіцкага духавенства. Вызначыўся ў вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй (1632–1634) за Смаленск: некалькі месяцаў трымаў яго ў аблозе і ўзяў, калі прыйшла польская дапамога.

## 23 сакавіка

**Сусветны метэаралагічны дзень.**

**1990.** Заснаванне Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

## 24 сакавіка

**Сусветны дзень барацьбы з сухотамі.**

## 25 сакавіка

**Дзень Волі ў Беларусі.**

**1905.** У вёсцы Машчыцы Слуцкага раёна на Міншчыне нарадзіўся доктар біялагічных навук Аляксандр Вечар. Навукова абгрунтаваў выкарыстанне аскарбінавай кіслаты ў тэхналогіі вытворчасці пеністых вінаў. Браў удзел у стварэнні першага ў СССР доследна-прамысловага завода па атрыманні караціну з морквы і першага завода па вытворчасці вітаміну B2 на аснове мікрабіялагічнага сінтэзу.

**1945.** У вёсцы Стэцкі Гродзенскага раёна нарадзіўся знакаміты баскетбаліст, гулец зборнай СССР Іван Ядэшка. Увайшоў у гісторыі тым, што ў фінал Алімпіяды–1972 за тры секунды да канца матча каманды СССР супраць ЗША аддаў надзвычай далёкі пас на Аляксандра Бялова, які зрабіў лік пераможным 51:50. Гэта адзін з самых драматычных эпізодаў у гісторыі сусветнага спорту.

## 26 сакавіка

**1940.** У вёсцы Масцішча Навагрудскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся доктар гістарычных навук, ганаровы архівіст Беларусі Міхаіл Касцюк. Кіраваў Інстытутам гісторыі Акадэміі навук, быў галоўным рэдактарам шасцітомніка «Гісторыя Беларусі».

**1960.** У вёсцы Пугачы Валожынскага раёна нарадзіўся паэт Віктар Шніп, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**1995.** Пачало дзейнічаць Шэнгенскае пагадненне. Беларусь займела агульную мяжу з краінамі, якія ўваходзяць у Шэнген, 1 траўня 2004 года (Польшча, Літва і Латвія).

## 27 сакавіка

**Сусветны дзень тэатра**

**1985.** У Ленінградзе нарадзілася беларуская біятланістка Надзея Скардзіна. Мае залаты алімпійскі медаль у эстафетнай гонцы і бронзавы — у індывідуальнай гонцы на 15 кіламетраў.

**1985.** У Мінску нарадзіўся Віталь Гуркоў, 12-разовы чэмпіён свету ў тайскім боксе. Таксама ён — удзельнік гурта «Brutto».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 479

Падпісана да друку 20.03.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.